# ПОЛАЦАК

Выданьне беларускага культурна-асьветніцкага цэнтру
Кліўленд
ЗША




№1 (31), 1994





*Цырымонія сустрэчы Прэзыдэнта ЗША Біла Клінтана ў Менскім аэрапорце*
*Фота Анатоля Белага*



# Зьмест



На развароце: У час візыту Прэзыдэнта ЗША Б.Клінтана ў Беларусь. Фота А. Белага
.На чацьвёртай бачынцы вокладкі: **Мікола Купава**. Маладая Беларусь

# «Беражыце свабоду!»



Першы прыезд Прэзыдэнта ЗША Біла Клінтана ў Беларусь адбыўся 15 студзеня. Пасьля афіцыйных сустрэчаў, падпісаньня сумесных дакумэнтаў, дагавораў, пагадненьняў, ускладаньня вянку на плошчы Перамогі, пасьля сустрэчы з маладой беларускай інтэлігенцыяй у Акадэміі Навук Беларусі, Біл Клінтан паехаў у Курапаты.

Курапаты. Ціхі шэпт сосен, маўклівых сьведкаў пакутаў тут чвэрці мільёна беларусаў. Неяркія водбліскі сьвечак у руках дзяцей... Прэзыдэнт амэрыканскай дзяржавы ішоў былой дарогаю сьмерці да Крыжа пакут. Зянон Пазьняк расказываў жудасную па сваёй бесчалавечнасьці і жорсткасьці гісторыю Курапатаў. Клінтан быў узрушаны. Ён запаліў сьвечку. Разам зь беларускай дзяўчынкай падыйшоў да Крыжа і ўстанавіў сьвечку на мэмарыяльнай пліце «Ад народу Злучаных Штатаў Амэрыкі народу Беларусі на памяць. 15.01.1994» Дзіцячы хор прасьпяваў«Магутны Божа». У Курапатах, у гэтым сьвятым для беларусаў месьце, Біл Клінтан сказаў сваю апошнюю ў Беларусі прамову. Прэзыдэнт Злучаных Штатаў гаварыў аб каштоўнасьцях свабоды. Ягоныя словы былі зьвернуты менавіта да дзяцей, надзеі і будучыні Беларусі: «Вы нарадзіліся ў свабодзе. Беражыце яе!»

Прэзыдэнт гаварыў аб свабодзе. Свабодзе, за якую 200 гадоў назад змагаўся Кацьюшка, за якую 130 гадоў назад паклаў сваё жыццьё Кастусь Каліноўскі. Свабода і незалежнасьць заўсёды былі асноўнай марай беларусаў. Словы Прэзыдэнта ЗША гучалі як папярэджаньне. Менавіта пытаньне аб свабодзе: эканамічнай, палітычнай, рэлігійнай—надзвычай востра паўстала сёньня, на 3 годзе незалежнасьці. Імпэрыялістычная палітыка Расеі, эканамічная ліхаманка ад рублёў да «зайчыкаў» і ад «зайчыкаў» да рублёў, узмацьненьне камуністычнага лягеру,—усё гэта ў канчатковым выніку вядзе да падрыву нашай свабоды, а значыць і незалежнасьці.

Ці зможа быць наш народ свабодным пры гэтых умовах? Ці зможам мы застацца незалежнай нацыяй? Ці будуць нашыя дзеці «людзьмі звацца»? Нялегкія гэтыя пытаньні. Але адказваць на іх прыдзецца толькі нам самім, беларусам. Калі мы ня здолеем самі вырашыць іх, нам ніхто не дапаможа, нават Амэрыка.

Мы зможам пераадолець гэтыя праблемы толькі дэмакратычнымі мэтадамі.

Мы захаваем сваю свабоду толькі тады, калі станем змагарамі, як нашыя славутыя продкі.

Мы будзем свабоднымі, калі зможам у сябе, дзень за днём зьнічтажаць сваю бездапаможнасьць, залішнюю цярплівасьць, унутранае рабства, калі перастанем аглядвацца на суседа і сузіраць, як паступова памірае нацыя.

Нашыя дзеці нараджаюцца пакуль што ў свабодзе. Будзем-жа берагчы яе. І прасіць Усявышняга: «Зрабіць магутнай, зрабіць шчасьлівай, краіну нашу і наш народ».

*Сьвятлана Белая*

Сьвятлана Белая

 НАША ГІСТОРЫЯ 

# Прэзыдэнт ЗША у Беларусі

Анатоль Белы

Першы раз я сустрэўся з Білам Клінтанам у Кліўлендзе, 21 жніўня 1992 г. у час ягонай кампаніі на пост Прэзыдэнта ЗША. Мне пашчасьціла ня толькі прывітацца з будучым Прэзыдэнтам і паціснуць яму руку, але пагаварыць зь ім і падарыць беларускі сьцяжок. Другая сустрэча адбылася ў час візыту Біла Клінтана ў Беларусь, 15 студзеня 1994 г. Гэтым разам паціснуць руку Прэзыдэнту не прыйшлося, хаця я быў акрэдатаваны ад часопіса «Полацак». Тым ня менш, прыезд Біла Клінтана ў Беларусь застаўся для мяне, як і для многіх беларусаў, памятнай падзеяй.

## За тыдзень да прыезду

Падрыхтоўка да сустрэчы Прэзыдэнта ЗША Біла Клінтана пачалася загадзя. У афіцыйных колах дыскутавалася праграма прыняцьця, распрацоўваліся дакумэнты, якія мусілі падпісаць беларускі й амэрыканскі бок. Рыхтаваліся на ўсіх узроўнях. Напрыклад, задоўга да прыезду шаноўных гасьцей пачался генеральная ўборка на вуліцах, па якіх, плянавалася, будзе праязджаць Прэзыдэнт і ягоная жонка. А тратуар і панадворак перад дзіцячым шпіталям №4, які зьбіралася наведаць першая лэдзі Амэрыкі місіс Клінтан, мылі і чысьцілі цэлы тыдзень.

## 14 студзеня

Напярэдані прыезду Клінтана паміж урадам Рэспублікі Беларусі й урадам Злучаных Штатаў Амэрыкі былі падпісаны дакумэнты. З амэрыканскага боку ўсе дакументы падпісаў надзвычайны і паўнамоцны пасёл Давід Суорц. Зь беларускага боку дакумэнты падпісвалі розныя юрыдычна-праўныя асобы. Так, пагадненьне аб навукова-тэхнічным супрацоўніцтве, пагадненьне аб утварэньні сумеснай камісіі па аграбізьнесу і разьвіцьцю сельскай гаспадаркі, паагдненьне аб мытным супрацоўніцтве падпісаў намесьнік міністра замежных справаў РБ Пётр Бяляеў, пагадненьне Міністэрстваў фінансаў і нацыянальнага банку РБ з экспартна-імпартным банкам ЗША падпісалі намесьнік міністра фінансаў РБ Мікалай Лісай, намесьнік старшыні праўленьня нацыянальнага банку РБ Уладзімір Заяц. і г.д.

У гэты-ж дзень міліцыя абыходзіла кватэры тых, хто жыве на праспэкце Скарыны, і «прасіла», каб 15 студзеня жыхары не выходзілі на балконы і праз вокны не высоўваліся. У майстэрню мастака Сяргея Г., вокны якой выходзяць на плошчу Перамогі, прыйшлі два міліцыянеры і «папрасілі», каб мастак не прыходзіў у майстэрню ў дзень прыезду Клінтана. У выпадку, калі ён усётакі прыйдзе, папярэджвалі, каб трымаўся далей ад вокнаў, бо снайперы ня любяць пабочных аб'ектаў. Як высьветлілася пазьней,у час наведваньня Білам Клінтанам плошчы Перамогі, на балконах многіх дамоў стаялі беларускія й амэрыканскія снайперы са зброяй і ахоўвалі Прэзыдэнта ад «нечаканасьцей».

## 15 студзеня

Раніцай у 7.30 беларускія акрэдатаваныя журналісты двумя аўтобусамі паехалі на

лётнішча. Па ўсёй дарозе, на кожным масту стаяла вайсковая ўзброеная ахова у бронежылетах. Ля лётнішча была ўзмоцненая міліцэйская ахова. Каб прайсьці на здымачную пляцоўку, нас двойчы правяралі службы бясьпекі. Беларуская служба загадала адчыніць сумкі, паказаць апаратуру, зрабіць па аднаму здымку. Амэрыканская служба акрамя гэтага, падвяла да нас сабакаў, якія абнюхвалі кожную сумку, ці няма пораху й узрыўчаткі. Невядома, ці рабілася такая праверка для амэрыканскіх журналістаў, але для іх выдзялілі лепшую пляцоўку для здымкаў.

У 10.30 прыляцеў Прэзыдэнцкі самалёт. Дзьве дзяўчыны ў нацыянальных строях з хлебам-сольлю на вышываным рушніку падыйшлі да трапу самалёта і разам з Старшынёй Вярхоўнага Савету Станіславам Шушкевічам і прэм'ер-міністрам Вячаславам Кебічам павіншавалі Прэзыдэнта ЗША і ягоную жонку з прыездам на беларускую зямлю. Ад самалёта да спэцыяльна зробленай невялікай трыбуны была выслана чырвоная дарожка,уздоўж якой стаялі беларускія вайскоўцы, апранутыя з нагоды прыезду амэрыканскага Прэзыдэнта ў новую форму. Прэзыдэнт ЗША, Старшыня Вярхоўнага Савету Станіслаў Шушкевіч і прэм'ер-міністр Вячаслаў Кебіч прайшліся уздоўж ганаровай варты. Прагучалі дзяржаўныя гімны, роўным строем прайшліся вайскоўцы. Прэзыдэнт Злучаных Штатаў, Старшыня Вярхоўнага Савету Станіслаў Шушкевіч, прэм'ер-міністр Вячаслаў Кебіч, прадстаўнікі амэрыканскай і беларускай дэлегацыі пад аховай беларускай міліцыі і вайскоўцаў, накіраваліся ў горад. Мы, журналісты, селі ў аўтобусы і ў агульным патоку ўрадавых машын паехалі ў Менск.



*Першыя хвіліны Прэзыдэнта ЗША Біла Клінтана на беларускай зямлі*

Па абодва бакі праспэкту Скарыны стаялі людзі і віталі картэж машын. На рагу вуліцы Камсамольскай й праспэкту Скарыны, каля кафэ «Вясна» сабралася невялікая група людзей з чырвонымі сьцягамі і пракамуністычнымі лёзунгамі. Раніцой яны дэманстравалі каля амэрыканскага пасольства, затым, думаючы прарвацца да Прэзыдэнта, прыйшлі на праспэкт Скарыны. Міліцыя, якая пільна сачыла за парадкам, не прапусьціла іх. Прэзыдэнт ЗША без прыгодаў дабраўся да рэзыдэнцыі, дзе адбыліся ягоныя перамовы і падпісаньне дакумэнтаў з Станіславам Шушкевічам, а пасьля сустрэча зь Вячаславам Кебічам і з прадстаўніком апазыцыі ў Вярхоўным Савеце РБ Зянонам Пазьняком.

Пасьля 2-гадзінных перамоваў у рэзыдэнцыі, Прэзыдэнт паехаў на плошчу Перамогі, дзе ўсклаў вянок. Тут-жа на плошчы, ён падыйшоў да людзей, якія стаялі каля ўваходу ў метро, каб паціснуць ім рукі. Гэта была зусім незаплянавая, але незабыўная падзея для тых, каму пашчасьціла прывітацца з Прэзыдэнтам ЗША.

Такім-жа памятным момантам стала выступленьне Біла Клінтана ў Акадэміі навук Беларусі. На сустрэчы з маладымі навукоўцамі ён, зьвяртаючыся да маладога пакаленьня, сказаў: *«Будучыня вашай нацыі ў вашых руках, і вашаму пакаленьні належыць будаваць моцную нацыю і дзяржаву. Вы, я хачу запэўніць Вас, не адзінокі ў вырашэньні гэтых пытаньняў. Я прыйшоў да Вас, як сябра, каб выказаць сваю падтрымку Вашым дэмакратычным і эканамічным рэформам, якія Вы пачалі, як нацыя.»* Біл Клінтан гаварыў аб неабходнасьці маладога пакаленьня ўдзельнічаць у правядзеньні эканамічных і дэмакратычных рэформаў, аб адказнасьці маладых перад будучымі нашчадкамі. *«Вы,* —падкрэсьліў Прэзыдэнт,— *нацыя з доўгай гісторыяй, і калі Вы будзеце штодзённа працаваць над будучым, Вы пабудуеце цудоўную краіну.»*

## Апошнія хвіліны на беларускай зямлі

За гадзіну да адлёту ў Жэневу, Біл Клінтан наведаў Курапаты.Зянон Пазьняк расказаў яму пра трагедыю Курапатаў, растлумачыў, чаму і як праводзіўся генацыд у Беларусі. Прэзыдэнт ЗША падыйшоў да Крыжа пакутаў,які быў пастаўлены Народным фронтам у 1989 годзе. Зянон Пазьняк нагадаў, як у 1988 г, у дзень памяці продкаў, сюды прыйшлі людзі, але ўнутраныя войскі не дапусьцілі іх да магіл.Зянон Пазьняк прадставіў Білу Клінтану членаў «Мартыралёга», людзей якія шмат гадоў правялі ў сталінскіх гулагах. Падарыў кніжку «Курапаты», у якой сабрана інфармацыя аб вынішчэньні беларусаў. Дзеці, якія стаялі каля Крыжа пакут, прасьпявалі «Магутны Божа». Прэзыдэнт ЗША быў узрушаны. З гэтым пачуцьцём ён і пакінуў Беларусь, абнадзеяўшы нас і прыабяцаўшы, што будзе падтрымоўваць усе нашыя дэмакратычныя рэформы. У гэтым завярэньні, як і наогул у візыце Біла Клінтана ў Беларусь, бачыцца мне добры знак зьменаў нашага жыцьця. Памажы нам у гэтым, Божа..



Пасольства Рэспублікі
Беларусь
у Злучаных Штатах Амерыкі



Embassy of the Republic
of Belarus
to the United States of America

1619 New Hampshire Avenue, N.W.
Washington D.C. 20009
Phone: (202) 986-1604
Fax: (202) 986-1805

PRESS RELEASE January 25, 1994

## President Clinton's Visit to Minsk

At the invitation of the Chairman of the Supreme Soviet of the Republic of Belarus Stanislav Shushkevich, President Bill Clinton of the United States made an official visit to Minsk January 15, 1994.

According to White House statements, this visit was indicative of the recognition of outstanding services of Belarus to international community, the tribute of respect to its consistent, firm position in the sphere of nuclear disarmament and arms control.

The program of President Clinton's visit in Minsk included talks with Chairman of the Supreme Soviet Stanislav Shushkevich and Chairman of the Council of Ministers Vyacheslav Kebich, a meeting with representatives of the opposition parties and movements, laying of wreaths at the World War II memorial at Victory Square, a speech to young scientists at the Academy of Sciences, a visit to a mass burial ground of Stalin's victims at Kuropaty.

The First Lady, Hillary Rodham Clinton, visited Children's Hospital No.4 in Minsk where children affected by Chernobyl are treated and attended a ballet performance at the Opera House. Chelsea Clinton visited Minsk Ballet school.

The issues of further development of bilateral relations were discussed between President Clinton and leaders of Belarus. President Clinton highly assessed the foreign policy of the Republic of Belarus and pledged continued U.S. support for efforts aimed at execution of denuclearization program. He informed that the U.S. additionally provided $ 25 million under the Nunn-Lugar legislation for the Safe and Secure Dismantlement (SSD) of nuclear weapons. This assistance will bring to $ 100 million the SSD funds committed to projects in Belarus. Both leaders welcomed the prospective inaugural meeting of the US-Belarusian Joint Commission on Defense Conversion. President Clinton informed Belarusian leadership of the January 14, 1994 Trilateral Statement by the Presidents of the United States, Russia and Ukraine and stated that the United States recognized the importance of fair compensation to Belarus for the value of the highly enriched uranium in nuclear warheads located on its territory. Chairman of the Council of Ministers Vyacheslav Kebich stated at a subsequent press-conference that Belarus attached great importance to this urgent problem. It was emphasized that in its clear commitment to non-

proliferation and a strong regime of export control, Belarus is well-placed to play a leading role in developing the policy framework and expertise that would benefit not only Belarus but also the other newly independent states and the world.

Chairman of the Supreme Soviet Stanislav Shushkevich and Chairman of the Council of Ministers Vyacheslav Kebich apprised President Clinton of the pace of economic and democratic reforms in Belarus. Chairman of the Supreme Soviet affirmed the commitment of Belarus to undertake accelerated privatization of state-owned enterprises and economic stabilization as essential elements of market economic reforms in Belarus. Chairman of the Council of Ministers Kebich informed President Clinton of the government's efforts to ensure transition to market relations and of the measures taken to transform monetary, banking and other key elements of the economy. To assist Belarus in undertaking economic reforms President Clinton informed Chairman Shushkevich of a new package of technical assistance for Belarus that will help fund small-scale privatization, exchanges and training, and projects in health, energy and the environment.

Leaders of both countries emphasized the need for U.S. and Belarus to ensure transition from short-term relations of U.S. assistance to long-term course for diversified, full-scale economic relations between both states, development of trade and investments. To expand the framework for development of commercial ties President Clinton and Chairman Shushkevich took a number of steps. They signed a Bilateral Investment Treaty, which will spur the further development of private investment and economic growth in Belarus.

An agreement allowing the U.S. Export-Import Bank to expand its operations in financing bilateral trade was also announced in conjunction with the visit. President Clinton and Chairman Shushkevich noted with satisfaction the conclusion of a bilateral agreement on science and technology. This document envisions a rapidly expanding exchange of scientific information and joint research activities that will carry prompt and practical benefits for the health, education and environmental protection of citizens of both countries. It is expected that the science and technology agreement will open the way to future programs and agreements in a number of specific areas, including such important issues as cooperation on study and remediation of the continued harmful effects of the Chernobyl nuclear disaster. The U.S. and Belarus also signed a memorandum of understanding expressing their intention to establish a Joint Commission for Agribusiness and Rural Development. The United States and Belarus also exchanged diplomatic notes bringing into effect a mutual assistance agreement between their customs services.

President Clinton and Chairman Shushkevich agreed to create a bilateral Business Development Committee to help identify and resolve problems that impede business expansion and to seek ways to develop new business opportunities. Both states agreed to establish an American Business Center in Minsk, which will encourage and assist American companies to explore trade and investment opportunitites in Belarus by offering critical business facilitation services, while also providing benefits to Belarusian firms. In addition, they agreed to establishment of a Regional Enterprise Fund, to include Belarus, Moldova and Ukraine that would offer equity investments, loans and technical assistance to promote the creation of small and medium-sized enterprises. Noting a recent protocol signed between the United States and Belarus in Washington, providing credits to Belarus for the purchase of U.S. wheat exports, President Clinton informed Chairman Shushkevich of the availability of additional credits to be used for the purchase of U.S. food commodities. It was agreed to continue to work for the speedy conclusion of Agreements on the avoidance of double taxation and on cooperation in peaceful uses of nuclear energy.

During his visit to Minsk President Clinton announced a donation of humanitarian medical equipment and training worth $ 10 million for the Republic of Belarus. The equipment will be sufficient to equip an entire 1500-bed hospital. The donation will be distributed to several Belarusian medical institutions.

Chairman Shushkevich informed President Clinton of the progress to date in drafting new Belarus' constitution, and described prospects for democratic national elections in 1994. President Clinton expressed his hope that these elections would be held, and pledged American technical electoral assistance as soon as a date for the elections is announced by the Supreme Soviet.

Considerable attention was devoted to the discussion of international problems during the talks. President Clinton described the Partnership for Peace initiative adopted at the NATO summit in Brussels. Chairman Shushkevich informed President Clinton of Belarus' constitutional provision that requires the Republic to pursue a policy of neutrality. He assured the President of Belarus' intention to carefully examine the possibility of participation in the Partnership for Peace.

On the whole, as Foreign Minister of the Republic of Belarus Pyotr Krauchanka noted, the visit attested to a wide international recognition of logical and weighed foreign policy of Belarus. It will impart a new impulse to the development of bilateral relations between two states.

СУМЕСНАЯ ЗАЯВА

Па запрашэнню Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Станіслава Шушкевіча Прэзідэнт Злучаных Штатаў Амерыкі Біл Клінтан наведаў 15 студзеня 1994 года Мінск з афіцыйным візітам. Адбыліся перагаворы паміж Старшынёй Вярхоўнага Савета С.Шушкевічам і Прэзідэнтам Б.Клінтанам, а таксама паміж Старшынёй Савета Міністраў Вячаславам Кебічам і Прэзідэнтам Б.Клінтанам. Быў абмеркаваны шэраг важных пытанняў двухбаковых адносін. У час перагавораў Старшыня Вярхоўнага Савета С.Шушкевіч і Прэзідэнт Б.Клінтан выказалі задавальненне пашырэннем двухбаковых адносін у адпаведнасці з Сумеснай дэкларацыяй аб адносінах паміж Злучанымі Штатамі Амерыкі і Рэспублікай Беларусь, прынятай у ліпені 1993 года, і адзначылі шэраг канкрэтных крокаў, зробленых у сувязі з візітам, для далейшага пашырэння беларуска-амерыканскага супрацоўніцтва ў такіх сферах, як бяспека, гандаль, інвестыцыі, нераспаўсюджванне, навука і тэхніка.

Абодва лідэры прыгадалі гістарычныя крокі, зробленыя Беларуссю па выкананню сваіх абавязацельстваў у адносінах да бяз`ядзернай будучыні, уключаючы ратыфікацыю Дагавора СНУ-1 і далучэнне, у ходзе візіту Старшыні Вярхоўнага Савета С.Шушкевіча ў Вашынгтон у ліпені 1993 года, да Дагавора аб нераспаўсюджванні ядзернай зброі ў якасці няядзернай дзяржавы. Старшыня Вярхоўнага Савета С.Шушкевіч паведаміў Прэзідэнту Б.Клінтану аб ходзе выканання Беларуссю праграмы ядзернага раззбраення. Прэзідэнт Б.Клінтан яшчэ раз пацвердзіў высокую ацэнку Злучанымі Штатамі вядучай ролі Беларусі ў гэтай жыццёва важнай галіне і запэўніў у далейшай падтрымцы Злучанымі Штатамі гэтых намаганняў. Ён паведаміў Старшыні Вярхоўнага Савета С.Шушкевічу аб наяўнасці на гэты момант дадатковых сродкаў, уключаючы 25 млн. долараў у

рамках закона Нана-Лугара для бяспечнага дэмантажу ядзернай зброі (БДЯЗ). Гэтая дапамога павялічыць да 100 млн. долараў сродкі для БДЯЗ, якія выдзелены для беларускіх праектаў, што звязаны з правядзеннем абароннай канверсіі, аднаўленнем навакольнага асяроддзя ў месцах размяшчэння стратэгічных ракет, экспартным кантролем і сувяззю. З улікам гэтага абодва лідэры віталі маючае адбыцца першае пасяджэнне Сумеснай беларуска-амерыканскай камісіі па абароннай канверсіі ў час візіту ў Мінск намесніка міністра абароны ЗША Уільяма Перы ў лютым-сакавіку. Яны адзначылі, што гэтая камісія сімвалізуе пашыранае двухбаковае супрацоўніцтва ў ваеннай галіне, якое прадугледжана Мемарандумам аб узаемаразуменні, падпісаным Міністрам абароны ЗША Л.Эспінам і Міністрам абароны Рэспублікі Беларусь П.Казлоўскім у час візіту апошняга ў Злучаныя Штаты ў кастрычніку 1993 года.

Прэзідэнт Б.Клінтан паведаміў Старшыні Вярхоўнага Савета С.Шушкевічу аб Трохбаковай заяве прэзідэнтаў Злучаных Штатаў, Расіі і Украіны ад 14 студзеня 1994 года. У гэтай сувязі ён заявіў, што Злучаныя Штаты прызнаюць важнасць справядлівай кампенсацыі Беларусі кошту высокаабагачанага ўрану з ядзерных боегаловак, што знаходзіліся на яе тэрыторыі.

Старшыня Вярхоўнага Савета С.Шушкевіч і Прэзідэнт Б.Клінтан зноў пацвердзілі цвердую прыхільнасць абедзвюх дзяржаў да нераспаўсюджвання ядзернай зброі і ўзялі на сябе абавязацельствы працягваць цеснае супрацоўніцтва ў гэтай галіне.

У сваёй цвёрдай прыхільнасці да нераспаўсюджвання і строгага рэжыму экспартнага кантролю Беларусь займае добрыя пазіцыі, каб іграць вядучую ролю ў распрацоўцы палітыкі і набыцці вопыту, што будуць на карысць не толькі Беларусі, але і іншым новым незалежным дзяржавам і ўсяму свету.

Старшыня Вярхоўнага Савета С.Шушкевіч азнаёміў Прэзідэнта Б.Клінтана з ходам эканамічных і дэмакратычных рэформ у Беларусі. Старшыня Вярхоўнага Савета адзначыў, што Беларусь застаецца прыхільнай да правядзення паскоранай

прыватызацыі дзяржаўных прадпрыемстваў і стабілізацыі эканомікі як важнейшых элементаў рынчачных эканамічных рэформ у Беларусі. Старшыня Савета Міністраў В.Кебіч паведаміў Прэзідэнту Б.Клінтану аб намаганнях урада па забеспячэнню пераходу да рынчачных адносін і прынятых мерах па трансфармацыі грашова-крэдытнай, банкаўскай і іншых ключавых сфер эканомікі. Старшыня Савета Міністраў В.Кебіч і Прэзідэнт Б.Клінтан таксама абмяняліся поглядамі па пытаннях двухбаковых эканамічных адносін. З мэтай садзейнічання Беларусі ў правядзенні сур`ёзнай эканамічнай рэформы Прэзідэнт Б.Клінтан паведаміў Старшыні Вярхоўнага Савета С.Шушкевічу аб новым пакеце тэхнічнай дапамогі Беларусі, які будзе спрыяць фінансаванню малой прыватызацыі, абмена спецыялістамі і іх падрыхтоўкі, а таксама праектаў у галіне аховы здароў`я, энергетыкі і аховы навакольнага асяроддзя. Прэзідэнт выказаўся ў падтрымку паскоранай эканамічнай рэформы ў Беларусі, што будзе спрыяльным для больш шырокай двухбаковай і міжнароднай дапамогі.

Адзначаючы, што гандаль і інвестыцыі з`яўляюцца найбольш цвёрдымі гарантыямі доўгатэрміновага эканамічнага росквіту, Старшыня Вярхоўнага Савета С.Шушкевіч і Прэзідэнт Б.Клінтан зрабілі шэраг крокаў з мэтай пашырэння рамак развіцця гандлёвых сувязей. Яны падпісалі двухбаковы Дагавор аб інвестыцыях, які будзе заахвочваць прыватныя інвестыцыі і эканамічнае развіццё ў Беларусі. Абодва кіраўнікі выказалі агульную ўпэўненасць у тым, што пашырэнне гандлёвых сувязей будзе эканамічна выгадна абедзвюм дзяржавам, а таксама паслужыць стымулам для далейшага развіцця прыватнага прадпрымальніцтва ў Беларусі. У ходзе візіту таксама было аб`яўлена аб пагадненні, якое дазволіць Экспартна-імпартнаму банку ЗША пашырыць свае аперацыі па фінансаванню двухбаковага гандлю. Пагадненне аб стымуляванні праектаў Экспартна-імпартным банкам будзе садзейнічаць развіццю рыначнай эканомікі Беларусі, пашырэнню прыватнага сектара яе эканомікі, а таксама заахвочванню двухбаковага гандлю. Беларусь і Злучаныя Штаты абмяняліся таксама дыпламатычнымі

нотамі, якімі ўводзіцца ў дзеянне пагадненне аб узаемнай дапамозе паміж іх мытнымі службамі.

Бакі пагадзіліся стварыць у Мінску Амерыканскі бізнес-цэнтр. Цэнтр будзе садзейнічаць амерыканскім кампаніям у вывучэнні магчымасцей, што існуюць у Беларусі ў галіне гандлю і інвестыцый, забяспечваючы іх самымі неабходнымі паслугамі для спрыяння бізнесу, а таксама дапаможа беларускім фірмам, ствараючы магчымасці для навучання ў сферы бізнесу і аказваючы тэхнічную дапамогу. Старшыня Вярхоўнага Савета С.Шушкевіч і Прэзідэнт Б.Клінтан таксама дасягнулі дамоўленасці аб стварэнні двухбаковага Камітэта развіцця бізнесу для дапамогі ў выяўленні і выражэнні праблем, якія перашкаджаюць пашырэнню дзелавой актыўнасці, і пошуку шляхоў для развіцця новых магчымасцей у сферы бізнесу. Акрамя таго, бакі дамовіліся заснаваць Рэгіянальны фонд прадпрымальніцтва, у які ўваходзілі б Беларусь, Малдова і Украіна і з якога рабіліся б адпаведныя інвестыцыі, пазыкі і аказвалася б тэхнічная дапамога ў мэтах садзейнічання стварэнню малых і сярэдніх прадпрыемстваў. Беларусь і ЗША таксама падпісалі мемарандум аб узаемаразуменні, у якім выказваецца іх намер стварыць Сумесную камісію па аграбізнесу і развіццю сельскіх раёнаў, якая будзе мабілізаваць сродкі для развіцця прыватнага прадпрымальніцтва ў сельскіх раёнах Беларусі, якія будуць атрыманы ад продажу харчовых тавараў, перададзеных у дарунак Злучанымі Штатамі. Беручы пад увагу нядаўна падпісаны ў Вашынгтоне пратакол паміж Злучанымі Штатамі і Беларуссю аб выдзяленні крэдытаў Беларусі на закупку экспартуемай з ЗША пшаніцы, Прэзідэнт Б.Клінтан паведаміў Старшыні Вярхоўнага Савета С.Шушкевічу аб наяўнасці дадатковых крэдытаў, якія могуць быць выкарыстаны для закупкі ў ЗША харчовых тавараў.

Старшыня Вярхоўнага Савета С.Шушкевіч і Прэзідэнт Б.Клінтан з задавальненнем адзначылі факт заключэння двухбаковага пагаднення па навуцы і тэхніцы. Гэтым дакументам прадугледжваюцца хуткае пашырэнне абмену навуковай інфармацыяй і сумесная навукова-даследчая

дзейнасць, што прынясе хуткую і практычную карысць грамадзянам абедзвюх краін у галіне аховы здароў`я, адукацыі і аховы навакольнага асяроддзя. Чакаецца, што пагадненне па навуцы і тэхніцы адкрые дарогу будучым праграмам і пагадненням у шэрагу канкрэтных галін, уключаючы такія важныя пытанні, як супрацоўніцтва па вывучэнню і змяншэнню шкоднага ўздеяння чарнобыльскай атамнай катастрофы, якое працягваецца дагэтуль.

Была дасягнута дамоўленасць працягваць работу над хутчэйшым заключэннем пагадненняў аб пазбяганні двайнога падаткаабкладання і аб супрацоўніцтве ў мірным выкарыстанні атамнай энергіі.

У час свайго візіту ў Мінск Прэзідэнт Б.Клінтан аб'явіў аб перадачы ў дарунак Рэспубліцы Беларусь медыцынскага абсталявання на суму 10 млн. долараў, уключаючы кошт навучання персаналу. Гэтага абсталявання будзе дастаткова, каб аснасціць бальніцу на 1500 ложкаў. Гэты дар будзе размеркаваны паміж некалькімі медыцынскімі ўстановамі Беларусі, уключаючы дзіцячыя медыцынскія цэнтры. Жонка Прэзідэнта пані Хілары Родэм Клінтан агледзела першую партыю грузу гэтага дару ў час наведвання дзіцячай бальніцы N 4 Мінска.

Старшыня Вярхоўнага Савета С.Шушкевіч і Прэзідэнт Б.Клінтан таксама абмеркавалі перспектывы правядзення дэмакратычных рэформ у Беларусі. Старшыня Вярхоўнага Савета коратка асвятліў ход работы, выкананай да гэтага часу, па падрыхтоўцы праекта першай канстытуцыі незалежнай Беларусі і абрысаваў перспектывы правядзення ў краіне дэмакратычных выбараў у 1994 годзе. Прэзідэнт Б.Клінтан выказаў спадзяванне, што гэтыя выбары адбудуцца, і паабяцаў аказаць пры іх правядзенні тэхнічную дапамогу з боку ЗША, як толькі Вярхоўны Савет абвесціць дату выбараў. Кіраўнікі дамовіліся аб неабходнасці працягваць стварэнне трывалай структуры дэмакратычнага кіравання ў Беларусі, якая ўключала б надзейную абарону асабістых правоў усіх грамадзян у адпаведнасці з міжнародна прызнанымі стандартамі. Старшыня

Вярхоўнага Савета і Прэзідэнт асабліва адзначылі важнасць ў дэмакратычным грамадстве свабоды слова, а таксама адкрытага і роўнага доступу да сродкаў масавай інфармацыі. Дынамічнае дэмакратычнае партнёрства паміж Беларуссю і Злучанымі Штатамі пойдзе на карысць абедзвюм краінам і будзе садзейнічаць міжнароднаму міру, стабільнасці і росквіту.

Старшыня Вярхоўнага Савета і Прэзідэнт зноў заявілі аб сваёй падтрымцы, праз такія структуры, як НБСЕ і ААН, узгодненых міжнародных намаганняў з мэтай садзейнічання мірнаму ўрэгуляванню рэгіянальных канфліктаў, урэгуляванню, у якім улічваюцца прызнаныя стандарты ў галіне правоў чалавека, міжнароднага права, а таксама ўмацаванню незалежнасці, суверэнітэту і тэрытарыяльнай цэласнасці ўсіх краін, уключаючы новыя незалежныя дзяржавы былога Савецкага Саюза.

Старшыня Вярхоўнага Савета С.Шушкевіч і Прэзідэнт Б.Клінтан адзначылі вялікія поспехі, дасягнутыя ў апошнія гады ў пераадоленні раздзялення еўрапейскага кантынента і адкрыцці дарогі да больш цеснага супрацоўніцтва паміж еўрапейскімі дзяржавамі. Прэзідэнт выклаў ініцыятыву "Партнёрства дзеля міру", прынятую на сустрэчы кіраўнікоў дзяржаў і ўрадаў краін-членаў НАТО ў Бруселі, як важны кампанент новай канцэпцыі бяспекі для кантынента, якая нараджаецца сёння. Старшыня Вярхоўнага Савета С.Шушкевіч паведаміў Прэзідэнту Б.Клінтану аб палажэнні Канстытуцыі Беларусі, у адпаведнасці з якім рэспубліка імкнецца праводзіць палітыку нейтралітэту. Ён запэўніў Прэзідэнта ў намеры Беларусі ўважліва разгледзець магчымасць удзелу ў "Партнёрстве дзеля міру".

Старшыня Вярхоўнага Савета С. Шушкевіч і Прэзідэнт Б.Клінтан выказалі агульнае меркаванне, што візіт Прэзідэнта Б. Клінтана ў Рэспубліку Беларусь значна спрыяў умацаванню адносін дружбы, супрацоўніцтва і ўзаемаразумення паміж дзвюма дзяржавамі.

Прэзідэнт Б.Клінтан выказаў глыбокую ўдзячнасць Старшыні С.Шушкевічу, Вярхоўнаму Савету, ўраду і народу Рэспублікі Беларусь за цёплы і дружалюбны прыём, аказаны яму і яго сям'і і усёй дэлэгацыі.

## BELARUS-USA DIPLOMATIC RELATIONS

The Republic of Belarus and the United States of America have established diplomatic relations on December 28, 1991. The USA was among the first countries to begin developing cooperation with Belarus in all areas and directions. To date the Republic of Belarus and the United States of America have concluded more than 20 agreements.

On February 4, 1993 the Republic of Belarus ratified the Strategic Arms Reduction Treaty (START-2) and the Protocol to the Treaty, signed in Lisbon on May 25, 1992. Besides, the Republic took the decision to accede to the Non-Proliferation Treaty as a non-nuclear-weapon state. This decision of the Belarusian Parliament was highly appreciated by the US Administration and opened a new stage in the relations between Belarus and United States.

A specific feature of the development of bilateral relations is the particular attention the two sides pay to cooperation aimed at arms reduction and prevention of proliferation of nuclear weapons and related nuclear technologies. The November 1992 Minsk visit of US senators S. Nunn and R. Lugar (authors of the famous "Nunn-Lugar" law) became an important milestone in the elimination of obstacles on the way to mutual understanding and stronger cooperation in this area.

Negotiations were held on the matters of bilateral cooperation, the implementation of agreements within the framework of the Nunn-Lugar Law and the support of economic reforms in Belarus during the visit of Belarus Foreign Minister Mr. P. Kravchenko to the USA (April 19-22, 1993).

On July 21 to 23, 1993 the Chairman of the Supreme Soviet of the Republic of Belarus Mr. S. Shushkevich was on an official visit to the United States of America. He was the first leader from the newly independent states to be invited to Washington for an official meeting with the US President. This summit demonstrated the utmost significance attached by the United States and Belarus to the broadening and deepening of their bilateral cooperation. Having agreed on cooperation in the attainment of mutual political and economic goals, and cooperation in the sphere of security, the leaders of both states laid a foundation for strong and friendly relations.

On October 26, 1993 the US Secretary of State Mr. W. Christopher was on a visit to Minsk. During this visit he had meetings with the Chairman of the

Supreme Soviet of the Republic of Belarus Mr. S. Shushkevich and the Chairman of the Council of Ministers of the Republic of Belarus Mr. V. Kebich. The arrival of the head of the US State Department demonstrated the intention of the American side to continue contacts at the highest level and showed the USA's interest in a successful course of economic and political reforms in Belarus.

On October 25 to 29, 1993 a delegation of the Armed Forces of the Republic of Belarus, headed by Belarus Defense Minister Colonel-General P. Kozlovsky, was on a visit to the United States. During this visit the sides held negotiations to discuss the issues of broadering cooperation within the framework of the Nunn-Lugar Law and the matters of cooperation in the elimination of conventional weapons and the implementation of the CFE Treaty and rendering assistance to Belarus in the course of economic reforms. The visit resulted in the signing of the Memorandum of Understanding and Cooperation in the Military Sphere between the Ministry of Defense of the Republic of Belarus and the US Ministry of Defense.

The forthcoming visit of US President Mr. B. Clinton to the Republic of Belarus will give a new important impetus to the development of bilateral relations.



## BELARUS-USA ECONOMIC RELATIONS

In 1993 Belarus exported its products to 87 countries of the world. The main foreign partners of the Republic in exports were Germany (12.8 per cent of total exports), Poland (11.3 per cent), Austria (6 per cent), USA (6 per cent), China (4.1 per cent). In imports the main partners were Germany (23.7 per cent of total operations), Austria (7.8 per cent), Poland (7.8 per cent), USA (10.2 per cent) and the United Kingdom (5.9 per cent).

During the first nine months of 1993 exports from Republic of Belarus to USA reached the figure of the 32189.0 thousand US dollars, while import amounted to 56227.0 thousand US dollars.

On February 16, 1993 the Agreement on Trade and Economic Cooperation between Belarus and USA came into force. According to this agreement, the two states will enjoy the most-favoured nation treatment in trade with each other.

## REPRESENTATIONS OF US COMPANIES IN BELARUS

As of December 1, 1993 there were 16 representations of US companies stationed in Belarus. Out of them the most prominent are Monsanto-Europe S.A. (subsidiary of the international MONSANTO Co.), Industrial Chemical and Dye Group Inc. (ICD Group), Texas Timber and Exporting Co. (TTE) and Tower Research International. These companies have their representations and branches in various countries of the world, including Russia and other CIS states.

Monsanto-Europe S.A. cooperates with Belarusian partners from the year 1986. By now the company products for the protection of farm crops have been tested at all farming facilities of Belarus, and a number of contracts have been signed.

Texas Timber & Exporting Co. (TTE) was established with the goal to promote goods and technologies from more that 40 US production companies to the Soviet market (later it became the CIS and Eastern Europe market). TTE has several large-size contracts in various fields in Russia, Kazakhstan and the Ukraine. In Belarus the company concentrates its activities on the supply of diagnostic and treatment equipment for hospitals, specialized clinics, etc.

In Minsk there is a representation of the Belgium branch of UPJOHN Corp. This US corporation produces medical preparations, equipment for clinics and other products necessary in the sphere of medical services. The company already supplies its products to Belarus and has plans for direct investments.

Tower Research International company works in Belarus on the development of the most advanced computer technologies. This company helped to computerize a number of large Belarusian banks and enterprises.

There are other US companies working in Belarus. Although their potential is not so strong in comparison with the companies listed above, they are quite active on the Belarusian market. These are, for instance, Logine International, Sovtex International and Elegant Logic. Some of these companies have established a joint venture such as the DUPLET, in which Login International is a co-founder.

The law firm Miller, Kenfield, Paddock and Stone plans to expand its activities in Belarus in order to help Belarusian producer companies in their promotion to the US market. This firm suggested several specific projects aimed at protecting the interests of Belarus in the USA.

Besides representations of US companies, Belarus has an agency of US charity organisation City Hope International. This organisation has already carried out several projects of delivery of humanitarian aid from the USA to regions of Belarus struck by the Chernobyl disaster. The total value of delivered cargo amounted to five mln. US dollars.

## JOINT AND FOREIGN - OWNED VENTURES WITH US CAPITAL

As of December 1, 1993 1131 joint ventures were registered in the Republic. Declared contribution to the ownership capital of joint ventures reached 573.7 mln. US dollars, including the share of foreign investors equal to 266.5 mln. US dollars.

The majority of joint ventures were established with partners from Poland (393), Germany (171), USA (93), Italy (60) and Austria (32).

American investors contributed 52.3 mln. US dollars to the ownership capital of joint ventures established in Belarus. Belarusian-US joint ventures are engaged in various kinds of activities, such as the production of consumer goods, manufacture of items for industries and production processes, construction, agriculture, trade, procurement trade, research and development work, information services, creation of software, medical services, recreation services, advertising and publishing.

The first ten most productive companies during the first nine months of 1993 included the following ventures with US capital: Summit Systems (computer production, founded by Chips and Technologies JV Limited, MPI Management Partnerships International), BELPAK (polyacetalia and polyethers production, founded by Ekota Fibres Ltd, Eastman Credit Union Bld.).

Today there are 279 ventures in Belarus registered as 100 per cent owned by of foreign investors. Declared ownership capital of foreign ventures constituted 14.8 mln. US dollars. The major part of these ventures belong to Polish (107), German (49), US (24), Dutch, Swiss and Austrian (7 each) companies.

Declared ownership capital of US investors is 2.4 mln. US dollars. These ventures are engaged in the production of consumer goods, manufacture of items for industries and production processes, agriculture, trade, procurement trade, design and recreation services.

### Export to USA in 1993 (9 months) thousand US $

| | |
|---|---|
| Synthetic fibres | 55.00 |
| Sweaters and jumpers | 141.00 |
| Glass fibres | 5.00 |
| Nickel, non-treated- | 1256.00 |
| Compasses | 1.00 |
| T-shirts | 8.00 |

| | |
|---|---|
| Packing bags | 1.00 |
| Equipment for rubber processing | 5.00 |
| Cotton cloths | 65.00 |
| Synthetic fabrics | 19.00 |
| Artificial cloths | 486.00 |
| Flax cloths | 21.00 |
| Tractors | 5060.00 |
| Bed-clothes and table linen | 20.00 |
| Outer-clothes | 105.00 |
| Slack wax, paraffin | 1153.00 |
| Engines & motors | 182.00 |
| Diesel fuel | 3691.00 |
| Curtains, draperies | 2.00 |
| Women's suits | 10.00 |
| Carbamide-ammonium mix | 2263.00 |
| Tableware | 1.00 |
| Jet engine fuel | 2309.00 |
| Potash fertilizers | 10763.00 |
| Nitrogen fertilizers | 49.00 |
| Spares for tractors and automobiles | 688.00 |
| Tyres for agricultural machinery | 163.00 |
| Aluminium fittings | 1.00 |
| Electronic integrated circuits | 2560.00 |
| TOTAL | 32189.00 |

**Import from USA in 1993 (9 months) thousand US$**

| | |
|---|---|
| Balances | 15.00 |
| Sweaters and jumpers | 54.00 |
| Acyclie alcohols | 74.00 |
| Natural rubber | 906.00 |
| Corn | 34496.00 |
| Men's jackets | 85.00 |
| Sunflower oil | 805.00 |
| Computers | 1003.00 |
| Medicines | 2.00 |

| | |
|---|---|
| Construction equipment | 164.00 |
| Tetrahydrofurane | 276.00 |
| Lift trucks | 46.00 |
| X-ray equipment | 84.00 |
| Telephones | 94.00 |
| Pharmaceutical materials | 10.00 |
| Video tape recorders | 21.00 |
| Herbicides | 3586.00 |
| Hydrazine | 244.00 |
| Spares for various equipment | 22.00 |
| Zipper fasteners | 9.00 |
| Musical instruments, wind | 27.00 |
| Musical instruments, keyboard | 3.00 |
| Musical instruments, string | 1.00 |
| Musical instruments, percussion | 3.00 |
| Suits | 15.00 |
| Ketones & hytones | 17.00 |
| Linoleum | 165.00 |
| Magnetic media | 7.00 |
| Magnetic disks | 78.00 |
| Microphones | 4.00 |
| Flour and ground oil-cake | 46.00 |
| Acrylic polymers | 265.00 |
| Ceramics | 717.00 |
| Platinum paste | 18.00 |
| Silver-platinum paste | 161.00 |
| Wheat | 10282.00 |
| Organic & inorganic compounds | 6.00 |
| Parts & accessories for electric appliances | 2117.00 |
| Parts & accessories for players & recorders | 24.00 |
| Parts & accessories for computers | 245.00 |
| Parts & accessories for musical instruments | 2.00 |
| Parts & accessories for instruments | 6.00 |
| Electronic integrated circuits | 22.00 |
| TOTAL | 56227.00 |

## CREDITS PROVIDED BY THE USA TO THE REPUBLIC OF BELARUS

I. *24 mln. US $ credit for the purchase of grain from the USA.*

Credit conditions: credit period-30 years, payment by equal amounts annually, first payment upon expiry of 7 years from the date of the last delivery of the product, initial interest rate of 2 per cent for the grace period of 5 years, subsequent interest rate-3 per cent.

Credit agreement signed on September 9, 1992.

In 1992 Belarus purchased 92 thousand tons of corn and 54 thousand tons of soya oil-cake. Debt service according to schedule.

II. *5 mln. US $ credit for the purchase of grain from the USA.*

Credit conditions: credit period-30 years, payment by equal amounts annually, first payment upon expiry of 7 years from the date of the last delivery of the product, initial interest rate of 2 per cent, subsequent interest rate-3 per cent.

Credit agreement signed on March 4, 1993.

In 1993 Belarus purchased 26 thousand tons of soya oil-cake. Debt service according to shcedule.

III. *5 mln. US $ credit for the purchase of grain from the USA.*

Credit conditions: credit period 24 years, payment by equal amounts annually, first payment upon expiry of 7 years from the date of last delivery of the product, initial interest rate 2 per cent, subsequent interest rate-3 per cent.

Credit agreement is ready for signing.

IV. In April 1993 the Eximbank of the USA and the Belarusian bank Belvnesheconombank (acting for the government of the Republic of Belarus) signed a *framework Credit Agreement, which envisages the provision of 118 mln. US dollars for the insurance of short-term credits for the export of goods and services from the USA.* The credit is provided for the period of up to 360 days. Projects may be considered for financing only if approved by the Government of the Republic of Belarus.

However, in the present situation this credit is difficult to be realized due to a very short term of repayment. It is very unlikely that the recoupment of the borrowed amounts can be ensured within one year under the economic conditions that nowadays prevail in Belarus.

# Тапаграфія знаходак манэт і аздобаў



Міхась Белямук



## *Гомельская вобласьць*

***Абрамаўка, Рэчыцкі р-н***

У 1890 г. М.Філонаў ва ўрочышчы Калпіно раскапаў некалькі курганоў і знайшоў пярсьцёнак сярэбраны, пацеркі сярэбраныя філігранныя, пацеркі шклосярэбраныя і сярэбраныя скранёвыя (?) кольцы.

*Романов [5]... б.125, Соловьева... б.58 №1, Яніцкая .. б.141, №55*

***Адамаўка, Рэчыцкі р-н***

У 1890 г. Ул. Завітневіч раскапаў 19 курганоў і знайшоў 12 шклозалочаных пацеркі X—XII стст.

Яніцкая б.141, №56

***Адраджэньне, Жлобінскі р-н***

У 1960 г. Г.Штыхаў дасьледываў могільнік XI—XII стст., знайшоў шклозалочаныя пацеркі.

ЗПГКБ., Гомельская вобл. б.171, № 758

***Азарычы, Калінкавіцкі р-н***

Перад вайной 1941 г. К.Палікарповіч дасьледываў гарадзішча і знайшоў залатую завушнічку.

Мельниковская б.82

***Азяраны, Рагачоўскі р-н***

У 1898 г. Е.Раманаў дасьледываў курганны могільнік, што на левым беразе ракі Друць. Ён знайшоў мансіты—на шоўкавай тканіне былі нашыты 81 шклозалочаная пацерка.

Яніцкая б.141, №57 ЗПГКБ, Гомельская вобл. б.290, №1527 Б

***Акцябрскі р-н***

У 1967 г. прыпадкова знайшлі сярэбраную манэту, якая была арабскім дыргемам.

**Мерваніды** Міяфарэкін Ірак 1012 /13 Ахмад ібн Мерван

Рабцэвіч і Стуканаў б.38, №19

***Асарэвічы, Брагінскі р-н***

У 1957 г. О. Мельнікоўская дасьледывала курганны могільнік і знайшла ў кургане сярэбранае пласьціністае кальцо.

Мельниковская, б.81-82

Працяг. Пачатак у №6(16)--10(30)

***Бабічы, Чачэрскі р-н***

У 1890-1900 гг. Е. Раманаў праводзіў раскопкі курганоў, што знаходзіліся каля ракі Покаць. У курганах ён знаходзіў шклозалочаныя пацеркі.

Яніцкая б.127-128, №2

***Багданаўка, Рэчыцкі р-н***

Перад 1930 г. у кургане пры касьцяку знайшлі шклозалочаныя пацеркі.

Рыбакоў... б.92, Соловьева, б.59, №19

***Бацьвінава, Чачэрскі р-н***

У 1967 г. і 1982 гг. Г.Салаўёва праводзіла раскопкі курганоў і знайшла 49 шклозалочаныя пацеркі, сярэбраныя сяміканцовыя скранёвыя кольцы і манэты. Што да манэтаў, маем розныя інфармацыі. Г.Салаўёва ў артыкуле «Словянские курганы у с. Ботвинкова» піша, што ў кургане №15 былі знойдзеныя 3 арабскія дыргемы і 5 заходняэўрапейскія бракгэаты. У В. Крапоткіна маем інфмармацыю, што было 7 дыргемаў, зь іх 5 былі Саманідаў наймаладзейшы Нух ібн Насра 943-954 гг., чаканены ў Самарканьдзе. 2 манэты С.А. Яніна расчытаць не змагла. Т.В.Раўдзіна інфармуе, што на грудзі пакойніцы былі падвескі: 3 дыргемы і 4 бракгэаты, а Г.Салаўёва яе паведаміла, што дыргемы былі з 916 г. і з 943 г. Адсюль Раўдзіна робіць выснову, што яны чаканеныя Насрам ібн Ахмадам, які панаваў 914-943 гг. Наша заўвага, Раўдзіна паставіла няправільную дату панаваньня Наср ібн Ахмад, бо ён панаваў з 914 г. да 943 г., у 943 г. пачаў панаваць Нух ібн Насра. Такім чынам, дыргемы ёсьць Саманідаў Насра ібн Ахмада і Нух ібн Насра, але колькі іх было? Паколькі С.Яніна вельмі добра знаёмая з арабскімі манэтамі, бо яна арабістка, то інфармацыя В.Крапоткіна верагодная. Ён піша, што С.Яніна «определила», што 5 манэтаў ёсьць саманідзкія дыргемы. Г.Салаўёва падае лік знойдзеных манэтаў 8, значыць, бракгэатаў праўдападобна было 3, а арабскіх дыргемаў было 5. Яны саманідзкія, чаканеныя ў Самарканьдзе.

Соловьева [2] б.76, 79 Кропоткин, б. 92, № 176, Равдина, б.31, №24.

***Бердыж, Чачэрскі р-н***

У 1961 г. Э. Загарульскі падчас раскопак кургана на правым беразе ракі Сож знайшоў нямецкі дэнары, з вушкам, чаканены ў Гроніген імп. Генрыкам ІУ, (1056-1076) і архп. Вільгельмам де Понте(1056-1076). Таму дэнар можна датаваць 1056-1076 гадамі.

Потин [2]., б.166, № 287, Потин [6] №93, Равдина б. 25, № 13

***Валасовічы, Чачэрскі р-н***

У канцы мінулага стагодзьдзя Е. Раманаў у кургане знайшоў маністы з пацеркамі, паміж якімі былі сярэбраныя філігранныя і шклозалочаныя пацеркі.

Яніцкая, б. 141 , № 60

***Ванюжычы, Петрыкаўскі р-н***

У 1880 г. і 1889 г. Ул. Завітневіч дасьледываў старажытныя могліцы ў сутокі рэкаў

Пціч і Прыпяці. Старажылы не памятаюць, каб на гэтых могліцах хавалі людзей. У раскапаных магілах Ул .Завітневіч знайшоў сярэбраную грэцкую, мажліва бізантыйскую манэту, залаты медальён, сярэбраныя бранзалеты, а ў курганах шклозалочаныя пацеркі.

Спицын, б. 414, Яніцкая, б. 141, № 60

***Верабёўка, Веткаўскі р-н***

Недалёка рэчкі Бесядзь ва ўрочышчы Асоўка знаходзіліся курганы, якія мясцовыя сяляне раскапывалі і знаходзілі сярэбраныя манэты.

Романов [5], б.123

***Ветачка, Рагачоўскі р-н***

У 1963 г. Г.Салаўёва раскапала 10 кургаоў, у 4 курганах былі знойдзеныя аздобы: адна шклозалочаная пацерка, 28 шклосярэбраных пацерак, сярэбраны бранзалет, 2 сярэбраныя скранёвыя кольцы, з нанізанымі трыма пацеркамі, пакрытыя зерню, і луньніца пазалочаная.

Соловьева [3], б.11-12 Яніцкая, б.141, №61

***Ветачка, Рагачоўскі р-н***

У 1965 г. Г.Салаўёва працягвала раскопкі курганоў і знайшла ў кургане 4-й групы пазалочаную луньніцу, 12 шклозалочаных і 1 шклосярэбраную пацеркі. Адна пацерка мела залачэньне, зробленае твароным золатам без наступнай заліўкі шклом, таму залатая фальга даволі сьцёртая.

*Яніцкая, б.142, №61*

***Ветачка, Рагачоўскі р-н***

У 1983 г. А. Плавінскі з В.Рабцэвічам дасьледывалі курганны могільнік з XI ст. У курганах з жаночымі пахваньнямі знаходзілі аздобы. Сярэбраныя бранзалетападобныя скранёвыя кольцы, пацеркі шклозалочаныя і шклосярэбраныя, падвеску сярэбраную манетападобную арнамэнтаваную.

*Плавинский б.404, ЗПГКБ Гомель. вобл. 292 , №1540 А*

***Ветачка, Рагачоўскі р-н***

У 1984 г. А. Плавінскі раскапаў 4 курганы, у жаночым кургане знайшоў шклозалочаныя і шклосярэбраныя пацеркі. У кургане, дзе была пахаваная дзяўчынка, знайшоў 7 невялічкіх сярэбраных скранёвых кольцаў, якія былі нанізаныя на сярэбранае кальцо, якое было абвітае сярэбранай ніткай.

*Плавинский [2] б. 348*

***Веткаўскі р-н***

Шкляроў Ф., дырэктар Веткаўскага музэю, ёсьць калекцыянерам старажытных рэчаў. Ён ад жыхароў скупляў аздобы, знойдзеныя прыпадкова ў курганах і гарадзішчах. У ягоным зборы ёсьць сярэбраныя бранзалеты, пацеркі, і пярсьцёнкі з X—XIII стст.

*Сахута.. б. 35-37*

# Із агню ды ў полымя

Міхась Кавыль



*Быліца пятнаццатая*



Язэп Лабач жыў у доме Ані Бабкевіч у маленькім пакойчыку. Яна была «салдатка». Сужэнец яе, лейтанант артылерыі, дзесьці ваяваў, а можа, ляжаў дзесьці ў брацкай магіле —вестак Аня ня мела. Чорнавалосая смуглянка, тонкая, вышэй сярэдняга росту, жвавая ў рухах, маўклівая, сказаць, што прыгожая, будзе няпраўдай, але і няпрыгожай не назавеш. Зь першага дня, як Язэп у яе пасяліўся, на працягу якіх чатырох месяцаў, Аня да яго амаль не абзывалася. Язэпа халодныя адносіны гаспадыні не хвалявалі, бо інакш, думаў Язэп, жонка савецкага лейтананта да яго, нямецкага супрацоўніка, далікатна кажучы, адносіцца не магла, хаця і сама была «грэшная». Праўда, працавала яна прыбіральшчыцай у Доме Беларускіх прафсаюзаў праз вуліцу ад свайго дому, але-ж працавала, не супрацоўнічала. Мала гэтага, «супрацоўнічала» з жалезнадарожным ахоўнікам нейкім Якобам. Наведваўся Якоб да Ані часта, але яна ня ішла зь ім у ложак, бо, напэўне, саромелася Язэпа, а можа, па другой прычыне, але ўцякала да братоў на Сярэбранку. Якоб заставаўся ў пакойчыку Ані, чакаў яе, а не дачакаўшыся неяк адзін раз, зьвярнуўся з просьбай да Язэпа: «Біттэ, Езеп, ніхт лібе Аня...» Язэп махаў рукамі, адказваўся: »Іх ніхт лібе Аня.» Ці верыў Якоб Язэпу, ці не, але часам прыносіў шакалад, даваў цыгарэты. Кожную нядзелю да Язэпа сталі прыходзіць «убіваць час» хлопцы: Косьця Фарнэль, Валянтын Арлоў і Алесь Лабовіч, зь якім Язэпа пазнаёміў Косьця. Яны абодва працавалі ў Беларускіх прафсаюзах, баранілі беларусаў ад нямецкай «эксплёатацыі».Так характарызаваў Косьця Алеся Лабовіча, знакомячы зь Язэпам. Неверагодна, але існасьць: Косьця быў «фольксдойч», а Алесь Лабовіч жыд. Бацькоў Алеся забралі ў душагубку, а маладога Ізю схавалі ў час аблавы беларусы Лабовічы, а бацюшка Мікалай Лапіцкі даў «мэтрычную выпіску» із ніколі няіснуючай царкоўнай кнігі, на імя Алеся Андрэявіча Лабовіча. Такім чынам, Ізя Борухавіч Крамер стаў Алесем Андрэявічам Лабовічам. На беларуса ён ня быў падобны: чорнагаловы, гарбаносы, спатыкаўся на літары «р». Каб паказаць сваю несяміцкасьць, Алесь часта ў час гульні ў карты апавядаў такія антысэміцкія анэкдоты, за якія сам Гэбельс, каб пачуў, сказаў-бы: «Такія анэкдоты можа ведаць толькі жыд». Косьця Фарнэль быў ня Гэбельс, ведаў Ізю даўно, яшчэ да вайны, але ў душагубку не адаслаў. Немец Якоб часам прысядаў за стол, але гуляць у дурня ня любіў, дык навучыў гуляць у «Шварц Бёзэ—Чорную ведзьму». Слухаючы Алесевы анэкдоты, загадкава ўсьміхаўся, але Лабовіча ня выдаў. А Валянтын Арлоў, стукач СД, хмура маўчаў, не сьмяяўся разам з усімі. Аднойчы на працы падсеў да Язэпа і ні з таго, ні з чаго паціху сказаў на вуха:

—Я думаю, Алесь Лабовіч—жыд.

Язэп, ведаючы, што за «птушачка» Валянтын адказаў:

—А я ня думаю, а ведаю, што ён беларус.

Валянтын адыйшоўся, а пасьля вярнуўся ізноў, спытаў:

—Будзем заўтра гуляць у «Шварц Бёзэ?

—Прыходзь, калі зьбяруцца хлопцы, пагуляем.

Пасьля працы Язэп не пайшоў дамоў, а да Алеся. Той жыў недалёка ад Лабача, Алесь быў дома. Язэп, як толькі павіталіся, адразу сказаў:

—Вось што, Алесь. Хто ты па нацыянальнасьці, не мая справа, але ўсё-такі раджу табе із Менску выехаць, таму што адна асоба можа цябе ўгробіць.

Алесь пабялеў у твары, моцна паціснуў Язэпу руку, кажучы:

—Я дагадваюся,хто гэтая «адна асоба». Дзякую, браце, за папярэджаньне. І да пабачаньня. Зараз-жа зьбіраюся ў дарогу.

Як і раней, у нядзелю прыйшлі да Язэпа гуляць у «Ведзьму» Валянтын, Косьця і немец Якоб. Валянтын прыйшоў з гітарай, сьпяваў і надыгрываў «Кацюшу» і «Арабіну». Не было толькі Алеся Лабовіча. Вырашылі пачынаць безь яго.

Гулялі ў карты доўга. Калі закончылі гульню і сталі расходзіцца, Валянтын затрымаўся і сказаў Язэпу: «Пайшлі пройдземся да Алеся. Штосьці мне не падабаецца ягоная адсутнасьць на «Ведзьме».Язэп ня стаў адмаўляцца, і яны пайшлі. Ужо было па дзясятай, бяз пропуску хадзіць па Менску забаранялася пасьля дзясятай гадзіны. Пропускі яны мелі, але часам фрыцы ня пыталі аўсвайс, а палохалі із аўтаматаў. Алесь Лабовіч жыў на суседняй ад Язэпа вуліцы, немцы там рэдка калі праходзілі, і Валянтын зь Язэпам бяз прыгодаў дайшлі да невялічкага доміку. Сьвятло ў вокнах праз чорную маскіроўку не прабівалася. Валянтын моцна пагрукаў. Праз якія пару хвілін заскрыпелі дзьверы, пачуўся грубы мужчынскі голас:

—Што Вам трэба?

—Алесь дома?— спытаў Валянтын.

Мужчына адказаў неяк, як-бы спалохана, бо пазнаў Валянтына.

.— А хіба ён ня гуляў сягоньня з вамі ў карты?

Валянтын не адказаў, павярнуўся і пакрочыў па Савецкай. Язэп таксама прамаўчаў, дагнаў Валянтына, а той са злосьцю: «Уцёк» .

Язэп узарваўся:

—Што ты плявузгаеш: «Уцёк». Можа ён у свае нарачонае?.

—Пайшлі, пабачым, ці ён там кантуецца, ці...

Хрысьціна жыла недалёка ад Лабовічаў. Колькі Валянтын ні грукаў, ніхто не адазваўся. Раззлаваўшыся, Валянтын не разьвітаўся зь Язэпам і пашыбаваў па Савецкай у бок Камароўкі.Чаго яго туды панесла, Язэп дагадваўся: пайшоў заяўляць Смаленскаму СД. Язэп крутнуўся і пакрочыў назад, да Лабовіча, каб папярэдзіць яго пра небясьпеку,якая яму пагражала, як «бацьку» Алеся, калі Валянтын данясе, што Алесь Лабовіч уцёк у партызаны.

Як толькі Андрэй Лабовіч прыадчыніў дзьверы і спытаў: «Хто?»

Язэп адказаў:

—Сябра вашага сына. За пяць хвілін вы мусіце пакінуць дом і ўцякаць, бо вас арыштуюць.

Сказаўшы гэтак, Язэп хуценька пасьпяшыў дамоў. Ані ня было. Ходзікі паказвалі дванаццаць. Спаць Язэпу не жадалася, і ён сеў пісаць «справаздачу» пра пачутае ў Беларускай царкве. У царкву, што знаходзілася недалёка ад Дому ўраду, Язэп адзін раз схадзіў, але, апрача прыгожай пропаведзі айца Лапіцкага Мікалая, малебну, гучнага, але ня вельмі суладнага хору, нічога не пачуў дык і напісаў у другім з чаргі «рапарце» тое-ж што і ў першым.

Назаўтра панёс «рапарт» Краўцову. У тэатральным сквэры прысеў на лаўцы, каб перашнураваць бацінак. Калі разагнуўся і прыпадняўся убачыў хлопца, які выйшаў

із-за куста, і кіраваўся да яго. На ім быў блакітнаваты камбінзон. Ён ішоў неяк нясьмела, часта аглядваўся. Прыблізіўшыся да Язэпа, сказаў: «Добрай раніцы, Юзік!»

Язэп абмацаў яго вачыма, але не пазнаў ды ўсё-ж працягнуў руку і спытаў:

—Адкуль ты мяне ведаеш?

Той засьмяяўся і адказаў:

—Ведаю даўно. У вёсцы Лясная разам ганялі з узгорку кацёлку.

Язэп усё ніяк ня мог дадумацца, хто гэта. Кацёлку качала шмат хлапцоў падлеткаў, з таго часу мінула шмат гадоў, разьбярыся, хто зь іх стаіць перад табою, высокі, смуглявы.

Бачачы, што Язэп ня можа прыгадаць, хто ён, хлопец назваўся:

—Ды я брат Міхася, мужа твае сястры.

—Яраслаў? А каб табе добра было. Ніколі-б не адгадаў. Адкуль ты даведаўся пра мяне?

Віктар сказаў:

—Бачу, што ты сьпяшыш, дык доўга затрымліваць ня буду. Хачу толькі папрасіць у цябе парады: што мне рабіць зь сястрою Маняю? Яна, дурнёха, працавала ў Беларускім тэатры, не артысткаю, а прыбіральшчыцай. Улопалася там у нейкага артыстакамэдыянта, а той пайшоў у партызаны. Ну, і яна за ім пабегла. Пабегла, няхай бяжыць, але вось якая загвоздка. Я працую ў гаражы шафёрам. Часам пасылаюць мяне ў Старасельскую пушчу па дровы. Да мяне партызаны прыводзяць Маню і застаўляюць везьці яе ў Менск. Яна там мусіць нешта разьведаць. Адным словам, і сябе, і мяне падводзіць пад шыбеніцу. Два разы я ўжо яе правозіў. Запіхваў у кабіну сабе пад ногі. Немцы кабіну не абшуквалі. Пакажу праз апушчанае шло ў дзьвярах «аўсвайс», праверацьі прапускаюць. А што, калі праверацьь кабіну? Скажы, парадзь, як мне быць? Адвесьці яе ў жандармерыю? Сястра-ж...

Што мог парадзіць Язэп, апрача наступна:

—А ты пагавары зь ею, як брат зь сястрою, каб вярнулася назад, а я пастараюся дастаць ёй дакументы, і няхай жыве паціху.

Яраслаў зазлаваўся і выпаліў:

—Я ўжо зь ёй нагаварыўся. Пайдзі ты зь ею пагавары.Яна будзе сягоньня ў Віктара. І Яраслаў не разьвітаўшыся, пайшоў у бок Савецкай вуліцы.

Язэп не затрымліваў Яраслава, рашыў пасьля працы схадзіць да брата, пабачыца з партызанкай.

У пакоі на другім паверсе былога Дому ЦК КПБ(Б) ўсе працаўнікі сядзелі ўжо на сваіх мясцох, толькі сп. Краўцова ня было. Язэп спытаў у Валянтына, ці прыходзіў Краўцоў, Валянтын адказаў, што прыходзіў, забраў «рапарты» і пайшоў да Шрэтара.

—А што ты напісаў у рапарце пра вайну? —спытаў Язэп.

Валянтын адказаў пытаньнем:

—Пакажы,што ты напісаў?

Язэп працягнуў яму рапарт. Валянтын прачытаў і аскаліўся:

—Ты што? Хочаш пайсьці ўсьлед за Штайнбергам?

Пасьпешліва вярнуўся Сымон Юр’явіч і працягнуў да Язэпа руку: «Давай хутчэй рапарт». Схапіў і пашыбаваў да Шрэтара. Вярнуўся засмучаны, сказаў: «Наварочалі дроў, цяпер будзем расхлёбвацца Адзін Валянтын дагадзіў, але астатнім гер. Шрэтар загадаў напісаць рэфэраты, у якіх давесьці прыкладам, што Нямеччына прайграе вайну.»

Прапагандысты атрымалі занятак на тыдзень з гакам. Пасьля працы, не заходзячы на кватэру, Язэп пайшоў да Віктара. Таго яшчэ не было дома. Вера, думаючы, што

прыйшоў Віктар, (бо сабака не забрахала) адчыніла дзьверы і, ўбачыўшы Язэпа, спалохалася, заградзіла яму дарогу, паўтараючы: «Не заходзь! Не заходзь! Віктара няма яшчэ». Язэп узяў яе за рукі і, гледзячы з дакорам у вочы, прамовіў:«Ня бойся, Верачка. Я ня прыйшоў цябе арыштоўваць. Я ведаю, што Манька ў Вас. Мне сказаў Яраслаў». Цені атрапеласьці спаўзьлі з твару Веры, расхіліліся зьбялелыя вусны: «Тады праходзь. Праходзь».

Язэп прайшоў праз кухню ў невялічкі пакой. Там было суцьмяна. Язэп агледзеўся навокал, але нікога ня ўбачыў. Думаў, што Вера зойдзе, каб спытаць у яе, куды яна схавала Маню, але Вера не зайшла ў пакой, а засталася на ганку. Язэп уключыў сьвятло і ўбачыў на канапе «некага» пад посьцілкай. Язэп прыпадняў канец посьцілкі і агаліў «нейчыя» ногі. Думаў, перш паказытаць паміж пальцаў, як любіў калісь будзіць сястру, але прыйшоў не жартаваць,а ўгаварываць «блудную авечку». Маня не заарэгавала. Яна прыкідвалася, што сьпіць, а ў правай руцэ трымала «наган». Язэп аклікнуў:

—Маня! Маня! Гэта я—Майсечыкаў Юзік.

—О, а я думала! Так выйдзі на хвілінку! Я прыбяруся

Язэп выйшаў на кухню, чакаў, пакуль ня пачуў: «Можаш заходзіць!»

Язэп зайшоў, працягнуў руку й ашарашыў Маню: «Здарова, партызанка!»

Маня стаяла, але пасьля слоў Язэпа апусьцілася на канапу, выслабадзіла руку і стала аднекваціца:

—Адкуль ты ўзяў, што я партызанка?Я прыехала ў госьці да Віктара.

Язэп засьмяяўся, гледзячы на зьбянтэжаны прыгожы твар Мані.

—Чаго ты сьмяешся? Праўду кажу.

—Калі ты такая «праўдзівая», дык скажы, чаму ты ня прыехала ў госьці да брата Яраслава, а да дзядзькі Віктара?

—Я была ўжо у брат і..

—I ён цябе прывёз да Віктара. Прывёз із лесу. Прывёз, запхнуўшы сабе пад ногі ў кабіну трохтонкі.

Але ты мяне ня бойся, я цябе ня выдам немцам. Ты-ж мне крыху радня. Ты-ж яшчэ толькі пачынаеш жыць, а жыцьцё твае можа абарвацца заўтра, калі будзеш сядзець у брата пад нагамі і немцы цябе ўбачаць. Загубіш сабе й Яраслава. Ці табе ня хочацца жыць? Ці табе твой артыст даражэй за брата?

Маня паднялася, скомкала посьцілку, стала хадзіць па пакойчыку, маўчала.Язэп залюбаваўся сямнаццацігадовай стройнай дзяўчынай. Была яна ў сіняй блузцы і чорнай спадніцы, даўно ня мытых, не адпрасаваных. Яму стала шкада Маню, і ён наблізіўся да яе, узяў за абедзьве рукі і пачуў:

—Што табе трэба ад мяне?

—Нічога мне ад цябе ня трэба, Маня. Адно толькі, каб ты апомнілася і вярнулася назад у Менск.

—Не магу.

—Можаш. Інакш прападзеш за грош.

—Прападу за савецкую ўладу, чаму быць, таго ня мінаваць.

—Дура!

Язэп адпіхнуў ад сябе Маніны рукі, накіраваўся да дзьвярэй. Маня аклікнула: «Пачакай», дастала з-пад падушкі ліст паперы і працягнула Язэпу. Ён прачытаў і схаваў у кішэню, гэта быў ліст ад Васіля Васілеўскага.

Маня спытала:

--Будзеш адказаваць?

—Не

—Значыць, іскупляць віну прад Родзінай ня думаеш?

—Іскупляй ты за мяне.

—Добра. Маладзец. Так і скажу Клашы, яна будзе радая.

—Што ты сказала? Якая Клаша, хто яна?

—Клаша. Мая новая сяброўка.

—А ня ведаеш, як яе прозьвішча?

—Пятрова.

Язэп страпянуўся, нібы на яго шуганулі вядро кіпеню.Схапіў Маню за абе рукі, прыцягнуў да сябе і стаў цалаваць у скроні, у вусны.

—Што з табою?—вырвалася ў Мані —Звар'яцеў?

—Амаль што. Чакай мяне, я зьбегаю дадому, напішу адказ.

—А тут хіба ня можаш напісаць?

—Не, тут не магу. Мушу дома.

—Хочаш выдаць мяне немцам?

—Не із таго я дзясятка, хто выдае сваіх блізкіх. Чакай.

—Як доўга?

—Пару гадзінаў.

І Язэп хуценька выскачыў за дзверы, памахаў рукою Веры, якая корпалася на агародзе, і пашыбаваў па вул. Люксембурга на Савецкую, а там да Чырвонаармейскай, дзе жыў Сымон Юр'явіч Краўцоў. З Краўцовым Язэп думаў парадзіцца наконт пасланьня партызану, бо лічыў яго болей спрактыкаваным у такіх справах.

Краўцоў, прачытаўшы ліст Васіля, выслухаўшы Язэпа, як яму быць: адказваць на ліст ці не, парадзіў адказаць у такі спосаб:

*«Дарагі Вася! Ліст твой атрымаў. Я даўно зьбіраўся паступіць так, як пасупіў ты, але сямейныя абставіны не дазвалялі. Ды перад тым, як ісьці ў лес, я хацеў-бы зьдзейсьніць штосьці паважнае тут, у Менску. Я ўжо нагледзеў аб'екты, мне трэба толькі адпаведны матэр'ял ды зброя, а яшчэ памочнікі. Чакаю на адказ.*

*Твой сябра Я.Л.»*

Краўцоў сказаў Лабачу: «Можа прыдуць да цябе партызаны, прынясуць «матар'ял, дык пастарайся паведаміць мне». Язэпу ня стукнула тады ў галаву спытаць: «У які-ж гэта спосаб я змагу паведаміць? Тэлефону-ж няма. Што я скажу партызанам: каб пачакалі, пакуль я недзе зьбегаю?

Ужо ідучы дамоў, крыху адагнаўшы ад сябе думку пра Клашу, здаўмеўся Язэп пра тое, як павядоміць.Адно выйсьце ўсё-ж знайшоў Язэп—прасіць гаспадыню.Калі Аня ня зьвязна з партызанамі, згодзіцца пабечы, а калі зьвязана? Будзе бачна, тады прыдумаю, нешта. А вось, што рабіць з Клашаю? Яна, бадай, мяне яшчэ не забыла. Кахаць наўрад ці кахае. У такім узросьце ды ў такіх умовах, у якіх яна знаходзіцца, пачуцьці зьмяняюцца з подыхам ветру. Я пакуль што ёй не здрадзіў, бо не спаткаў прыгажэйшай за яе дзяўчыны. А яна? Хіба мала там прыгожых партызанаў? А там, хто яе ведае? Тэрмін нашае кляцьбы, прысягі на вернасьць, яшчэ ня скончыўся. Можа, датрымоўвае слова. Ды першы-ж я ў яе быў.... Трэба будзе папрасіць Маню, каб сказала Клашы ,што я яе кахаю, хацеў-бы пабачыцца і пагутарыць. Паколькі я не магу пайсьці ў лес, дык няхай яна прыйдзе ў Менск.

З такімі думкамі Язэп пераступіў парог Віктаравага дому. Яго ўсё яшчэ не было. Маня сядзела на канапе зь Вераю. Убачыўшы Язэпа, Вера паднялася і пайшла на кухню. Язэп даў Мані зламаны трохкутнічкам ліст, сказаў,што Маня можа яго пісьмо прачытаць, ды папрасіў сказаць Клашы, што ён «верны прысязе», а таксама, што ён хоча пабачыць Клашу. Калі зможа, няхай адпросіцца на якую-небудзь акцыю ў Менск, прыйдзе на Карла Лібкнехта, 4. Маня паабяцала Язэпу зрабіць усё, што зможа. Яны разьвіталіся. Язэп пайшоў на кватэру, а Маня амаль усьлед да ім пайшла ў Беларускі

тэатр. Ужо вечарэла, нямецкіх патрулёў яшчэ не было на Савецкай вуліцы, ды нідзе яшчэ іх ня было. У Мані быў не прасрочаны «аўсвайс», а таму яна ішла сьмела.

У тэатры сьвятло не прабівалася праз адтуліны чорнай паперы, якою былі пазавешваны вокны, а гэта значыла, што ў тэатры нікога няма. Маня мела ўсе ключы ад дзьвярэй тэатру, калі працавала там, але надумаўшыся ісьці ў партызаны, пакінула зьвязку ў франтавых дзьвярох, толькі ад «чоронага ходу» ключ выпадкова застаўся у кішэні. Гэтым ключом Маня й адчыніла дзьверы чорнага ходу, увайшла ў непраглядную цемру высокага падмурку. Маня ня раз лазіла там паміж тоўстымі слупамі, якія трымалі бэлькі, добра арыентавалася, дзе знаходзіцца склад дэкарацыў, дзе ложа. Яна хутка дабрался да ложы, крыху асвойтаўшыся зь цемрай. Пераканалася, што міну пакласьці можна, толькі столь, значыць, падлога ложы высока ад зямлі, міна наўрад ці ўзарве ложу. Пра гэта яна вырашыла сказаць Новіку, як вернецца ў лес.

Язэп ў гэты час меў гутарку з гаспадыняй Аняй. Яна чамусьці была дома, корпалася на кухні. Павітаўшыся, Язэп спытаў:

—Што новага?

—А нічога асаблівага. Вось атрымала на працы два білеты на спэктакль. Калі хочаш, магу адзін даць табе, пойдзем разам.

Язэпа такая лагоднасьць Ані абрадавала, абяцала памысны вынік яго просьбе аб дапамозе. Ён падзякаваў Ані за білет, тут-жа прамовіў:

—Я,' спадарыня Аня, маю да Вас вялікую просьбу. Ці не маглі-б Вы дапамагчы мне ў адной далікатнай, а лепш сказаць, у небясьпечнай справе?

Аня маўчала, глядзела запытальна на Язэпа, а пасьля адказала:

—Ня ведаю, што казаць. Баюся лезьці ў небясьпечныя справы.

Язэп пашкадаваў, што ляпнуў пра небясьпечную справу, і паправіўся:

—Яна гэтая справа, не такая небясьпечная. Вось-жа, да мяне маюцца прыйсьці партызаны. Я мушу паведаміць аб гэтым свайго начальніка. Я, вядомая рэч, сам адлучыцца ад дому не змагу. Маглі-б Вы зрабіць гэта: схадзіць да майго начальніка? Ён жыве па вуліцы Чырвонаармейскай. Адрас я Вам дам пазьней.

Аня адказала:

—Калі партызаны прыйдуць удзень, змагу, а ўночы баюся ісьці, бо немцы могуць мяне прыстрэліць. Яны часам падвыпіўшыя, ня пытаюць аўсвайс, а сталяюць, бо іх партызаны так напалохалі, што яны баяцца свайго ценю.

Аргумэнты Ані былі слушныя, але Язэп стараўся прыўменшыць страхі, ўгаварваў Аню, але дарэмна.

Мінула пару дзён, Аня, як толькі Язэп прыйшоў, ашарашыла навінай:

—Прыходзіў якісь хлопец. Пытаў цябе. Я спытала, што яму трэба, дык адказаў: «Хачу папрасіць у Язэпа адну песьню. Яе перадавалі па радыё. Называеццца яна «Васілёчкі». Я яму сказала пачакаць, але ён адмовіўся, сказаў, зойдзе другім разам. Праз вакно ўбачыла: да яго падыйшоў гэты твой сябра, што часта начуе ў Марыі. Як-жа яго?

—Валянтын ?—спытаў Язэп.

—Валянтын. Ага, дык Валянтын нешта схапіўяго за руку і павалок.

Язэп падумаў: «Няўжо партызаны так хутка зарэагавалі на яго ліст? Штосьці ня верыцца. Нешта тут іншае. Але што? «Васілёчкі» некаму патрэбны былі, а, мажліва, мая галава?»

У Ані-ж спытаў, ці не сказаў ён, як яго

звацьʼ Аня пакруціла галавою.

Назаўтра Язэпа выклікалі з працы ў СД. У кабінэце начальніка стаяў нізкарослы, пакамечаны, спалоханы Сьцяпан Макарэвіч. Язэп пазнаў яго. Яны разам пакутвалі ў палоне, але ён не зрабіў «тры крокі наперад», калі прыяжджалі беларусы вызваляць братоў із палону. Як ён апынуўся на волі, Язэп адразу, як убачыў спытаў:

—А ты, Сьцяпан, як вырваўся із лягеру?

Той не адказаў на пытаньне, а папрасіў закурыць. Начальнік працягнуў Сьцяпану цыгарэту. Той зацягнуўся і, давячыся, дымам, прамовіў:

—Я ўцёк із палону. Цэлы месяц ішоў у Менск. Каля Белпэдтэхнікуму разгаварыўся з Арочкам Мікалаем. Ён мой аднавясковец .Я папрасіў яго прытуліць мяне на пару дзён, але ён адмовіўся, і, калі я ўпамянуў пра цябе, Язэп, ён даў мне твой адрас. А далейшае ты ведаеш.

—Дык вы,як бачу, даўно знаёмыя. А скажы,—зьвярнуўся начальнік да Макарэвіча,—чаму ты не згадзіўся ісьці ў школу прапагандыстаў разам з Лабачом і іншымі беларусамі?

—Таму,—адказаў Макарэвіч, — што ня маю сярэдняй адукацыі. Такіх як я, невукаў, ня бралі.

—Праўду ён кажа? —зьвярнуўся да начальнік да Язэпа.

—Праўду.

—Ты, сп. Лабач, можаш быць свабодны, —сказаў начальнік.

Язэп атрымаў пропуск і пакрочыў па вуліцы Астроўскага. Ідучы думаў: «У траўні гэтага,1943 году, будзе год, як мы трапілі ў мяшок, а праз пару дзён у палон. Ня верыцца мне, што Макарэвіч цэлы год дабіраўся да Менску пасьля ўцёку із лягеру. Хаця, можа уцёк ня так даўно, тады другая справа. А верагодней усяго —партызан. Толькі, чаго да мяне прыходзіўʼ Не «Васілёчкі» яму патрэбны былі. Анупрэйчык выцягне із яго прызнаньне. Каб толькі не заблытаў мяне з сваімі «Васілёчкамі». Ану прэйчыку ня прызнаўся наконт «Васілёчкаў» кватэра яму патрэбна была. Выкручваецца чалавек. І я ня лепшы быў-бы. А можа, яшчэ давядзецца і мне выкручвацца.

З гэтымі думкамі Язэп вярнуўся на працу. На калідоры спаткаўся з Краўцовым. Расказаў яму, чаго яго выклікалі ў СД, пра гутарку з гаспадыняй наконт таго, каб пабегла паведаміць яму, Краўцову, калі прыйдуць партызаны. Калі Язэп сказаў, што Аня згадзілася бегчы толькі ў дзень, а ў ночы баіцца. Краўцоў падумаўшы адказаў:

«Ладна, дзейнічай сам, без мяне, раз такая сытуацыя.А цяпер вось што: 22 чэрвеня Сэлех будзе ставіць п'есу Тодара Лебяды «Загубленае жыцьцё». Ты мусіш перад пачаткам прэм'еры выступіць з прамовай, крыху агітнуць. Ня выключана, што сярод гледачоў будуць і падпольшчыкі. Так што, сказані, каб і яны падумалі добра, за якое жыцьцё змагаюцца.

(Працяг будзе)



# Хрышчэньне

 Валеры Санько 

*(Урывак з аповесьці «Воўка ты знойдзеш на сваю шыю»)*

Нарэшце зборы кончыліся .У хаце сьпешна перакусвалі. Перакус ня доўжыся, бо пасьля прыезду ўсялюдна будуць сьвяткавацца нарадзіны. У хату прыйдзе шмат народу, ня толькі сваякі, але і суседзі, прыяцелі, знаёмцы.

—Ну, кум з кумою,—падаў голас Зьмітрок.—Каб дарогаю не засклелі, прымем чарку. За дачку нашу.

—За дачку.

Пятрок выпіў чарку, не адмовіўся ад наступнай. Мар'я, як не запрашалі Панцырэвіч і Марчук, выпіць адмовілася. Весела сыпала жартамі:

—Гарэлка ў дарозе, што пень на парозе, ні ў хаце прыбытку, ні на вуліцы ўбытку. Трэба даехаць. Дзе чара, там і свара.— Стральнула вачыма на ахмялелага Марчука. Жанчына не любіла выпітых.

—Досыуць тары-бары разводзіць,—перапыніў яе Пятрок. Дарога няблізкая.

Панцырэвічы ўсталі. Накормленае, добра ўхутанае дзіця на руках бацькі. Зьмітрок ступіў да хросных:

—Ну, бацькі, з Богам едзьце. Зычце дачцэ і нам шчасьця.

—Не затрымаемся,—зьвярнуўся да яго Марчук і працягнуў рукі да пакунка, які беражна трымаў бацька. Кума зірканула на кума, і сама забрала Волячку:

—Мужыкі заўсёды камандзіры. Хоць раз баба прымя нахрэшчанца.

Усьцешаная сабою і рэакцыяй бацькоў на яе смеласьць, Мар'я падала гаспадыні кусочак хлеба. Матка аддасьць хлеб назад, калі кума прывязе з царквы дачку бацькам. Аддасьць хлеб куме з прыплатаю

Перад выхадам з хаты кумы прыселі на лаву, наўкасы ад дзьвераў. Кума зь дзіцем на руках перасядае на спэцыяльна засланую вытканай сурвэткай табурэтку. Пад сурвэткаю на табурэце, ведаюць усе, ляжаць грошы, сшытак, ніткі, іголка. Калі-б на руках кумоў быў хлопчык, кума яго-б не трымала. Малы ляжаў-бы на руках кума. Ён сеў-бы не на табурэтку, а на калодку ці тачыльны камень, спэцыяльна ўнесеныя ў хату, каб хлопчык быў дужы.

—Хопіць сядзець. Спозьнімся,—праз секундаў колькі падняўся гаспадар.

Язычніцкія забабоны не закончыліся. Ніхто не заўважыў, як апынуліся ля парога нож, сшытак, грошы, іголка з ніткаю.

Кумы не заўважаюць пакладзенага ля парога рыштунку, ступаюць на парог. Рэчы, праз якія пераступілі кумы пры ад'езьдзе ў царкву, будуць перахоўвацца, каб ахрышчанка адмыслова валодала імі.

На вуліцы кума памерала вокам дарогу да саняў і толькі пасьля гэтага села ў развалкі. Пяцігадовы жарабец Бягун біў капытамі па сьнезе, радаваўся шчасьліваму заканчэньню паняволі ў стойле. Па прыкмеце, пануры конь перад выездам ў царкву азначаў, што хрышчэнца, у жыцьці будуць чакаць няўзгоды. Вясёлы, жвавы конь, наадварот, сьведчыў, што ў малога ўсё будзе толкам.

—З Богам! —прасьлязілася расчуленая Параска. Цёмны румянец на абветраных скулах жанчыны выступіў яшчэ больш. Яна з мужам і дзіцем ехала на асобных санках усьлед за кумамі.

Прыехалі на першае перакрыжаваньне.

*Заканчэньне. Пачатак у №10(30)*

Кума і кум выкінулі трохі загадзя ўзятае гліны і солі, дізця ня будзе пужацца дарогаў у яго не будзе спалохаў ад чужаніцтва.

—Перакусім,—закамандаваў Пятрок Марчук.

Сымбалічным перакусам распараджаліся жонкі.Блізка ці далёка царква, кумы ў дарозе павінны прыпыніцца, падзакусіць. Дзіцяці чаго ў рот пакласьці, каб яго не абыходзілі падарункі ў жыцьці.

Калі сьвятар блізка, у сваёй вёсцы ці гарадку ,хрышчальнікі супыняліся на паўдарозе. Перакусвалі, абменьваліся падарункамі. У царкву трэба ехаць паволі, каб растрасліся грахі—дарослых і дзіцяці, якія яно атрымала ў спадчыну ад бацькоў і дзядоў.

Ля царквы, старога даўно нефарбаванага будынку зь цяжкім меднымі крыжамі на шпілю цыбуліны-купала, было пустэльна, ціха. Толькі адзінокая старэнька бабулька стаяла пры ўваходзе, замольвала адной ёй вядомыя грахі.

Марчук зьлез з саняў, пачакаў другія сані, перакінуўся словам з Панцырэвічам і пакіраваў да невялікай пабудовы поруч царквы—там жыў сьвятар.Калі сьвятар Хвядос Сарока, моцны дзядок з раскошнаю барадою і спакойна-удумлівымі вачыма пачаў быў спасылацца на працу цяжкую, людзкую марнасьць,Марчук з гатоўнасьцю ў голасе шчодра паабяцаў ахвяраваць на храм. Ён пачаў тлумачыць, што разумее, што яны вінаватыя, бо прыехалі, позна, не ў час, але дарога ў іх была доўгая, зборы вяскоўцаў павольныя.

Сьвятар адчыняе весьніцы надвор'я:

—Дык заходзьце. Дзе астатнія? Дзе малое?

На ступеньках перад уваходам ў царкву Мар'я Варламень старанна мыляе губкамі, жуе часнок і абкурвае ім Волечку, каб здаровая была. Мужчыны ідуць за ёй усьлед. Жанкі на ступеньках моцна засьпяшаліся. Нельга, каб дзіця закрычала, як хросьнікі ўваходзяць у храм. Можа хутка памерці. Нема ўля спакойна пасапвала. Раптам роцік адкрыўся. Мар'я Варламень, як па камандзе, быццам што тарганула за руку, уклала ў малюсенькі прыгожанькі роцік соску, зь беражлівай хуткасьцю закрыла рот рукою. Поўнасьцю. Паверх соскі.

Закрычыць ці не, перад дзьвярыма цэркаўкі, на парозе якое паволі адмыкае дзьверы сьвятар? Не закрычала. Слава Усявышняму, не закрычала.

Жанкі і мужчыны пераступілі парог. Цяпер крычы, мальва, крычы. Мар'я Варламень прыняла пальцы з роціка хросьніцы. Не крычыць малая. Радасныя жанкі пераглянуліся. Сонца ўсьмешкаў лучыць твары жанчынаў.

У царкве холадна. Строгія твары іконных сьвятых задуменно пазіралі на людзей.

—Як назвалі дзіця?—спытаў сьвятар.

—Волькаю,—прашаптала Мар'я. Жанчына сур'ёзна хвалявалася за здароўе дзяўчынкі.

—Ольга. Хорошо. Благозвучное имя. Согласны ли вы, рабы божие Пётр и Мария, как зенцу ока берачь и охранять дитя Ольгу?

Кум і кума няўзгодна кіўнулі.

Сьвятар прамовіў пару абнадзейна-ласкавых фразаў наказу, размашыста перахрысьціў Пятрака і Мар'ю, а разам і хрэсьніцу з бацькамі. Ён сьпяшаўся. Малое спала доўга і старанна, а тут заварушылася, закрактала.Тужыцца. Запішчала разок, другі. Зноў шавеліцца. Крычыць. Дарослыя не зьвяртаюць увагі. Сьвятар таксама. Калі дзіця крычыць пры хрышчэньні, то будзе яно доўга жыць, а калі дзіцятка пры хрышчэньні лагоднае і ціхае, лёсам меней адведзена часу на жыцьцё.

Дрэнна ў жыцьці будзе дзіцяці, якое пры хрышчэньні кашляе, раз-пораз чмыхае. Зусім кепска давядзецца хрышчэньніку, калі аправіцца ў купальскую ваду. Дрэнна будзе і бацькам.

Дзіцянё пасінела, пакуль сьвятар з кумамі прылучалі яго да праваслаўнае веры. Мар'я са страхам і мацярынскай жаласьцю прыслухоўвалася да піску хрэсьніцы.

—Добра, што адразу пры ўваходзе ў храм замянілі пялёнкі ў дачулькі, — адзначыла Параска Панцырэвіч. Як ня круцілася ў падагрэтай вадзе дачулька, а не аправілася ў купоўную ваду.

На заканчэньне хрышчэньня, сьвятар яшчэ раз шырокім крыжам ахрысьціў прысутных і падбадзёрыў усіх:

—Талковая дзяўчынка,—ціха сказаў сьвятар і ад гэтых словаў лягчэй стала ва ўсіх на душы.

Калі ўжо выходзілі з царквы, Марчук зірнуў на сіня-шэрыя квадраты неба ў вокнах, нерухомыя і нямыя, што лес неўздалёк, аб нечым падумаў і узяў хрысьніцу ад Параскі.

—Дай я панясу. Болей надзейна, —дадаў ён на ганку, важка й асьцярожна саступаў з заінелых прыступкаў на зямлю.

Хрышчэньне закончылася.



*Аляксей Кузьміч. Мадонна*

# З перажытага

Янка Жамойцін

Вера Катковіч: Пасьля сьмерці Славіка, сілы мяне зусім апусьцілі ў пэўным мамэньце й я была блізкай да маральнага зламаньня. Лягерныя ўмовы аднак, хоць вынішчаюць людзей фізычна,ствараюць магчымасьць маральнай сэлекцыі зьняволеных. На шчасьце, мяне акружалі сябры нядолі, беларускія дзяўчаты, стойкія, як псыхічна, так і маральна, дзякуючы ім мне ўдалося вытрымаць і гэтую пробу лёсу.

Ян Жамойцін: —Ці ведамы табе іх лёс?

В.К. Зь некаторымі зь іх —найбліжэйшымі сябрамі таго часу—падтрымоўваю сувязь. Перапісваемся з Жэняй Шастак з Карэліч, што між іншым напісала верш, прысьвечаны памяці Славіка (Гл. Полацак №5, 1993), верай Касмовіч з Гарадзеі, Надзяй Дзімідовіч са Слоніма, нават у 1992 годзе я адведала іх. Былі там маімі сяброўкамі яшчэ Корч Фрося з Баранавіч, Дэрфіль Соня з Маладэчна, Поляк Вольга з Палесься, Воўкава Ірэна зь Вілейкі, Ніна Карлаўна з Воршы. Была там і Жэня Шэфер з Віцебску—жонка ведамага ў СБМ здольнага арганізатара—менскага кіраўніка моладзі Сяргея Бузака.Але яна, хоць была спагадлівая нам, аднак цясней трымалася асяродзьдзя рускіх бытавых вязьнярак з прычыны выконваньня функцыі ў лягернай адміністрацыі.

Я.Ж. Ты ўзгадвала пра ведамы ўжо цяпер з гісторыі ГУЛАГа бунт вязьняў у Кінгіры. Раскажы калі ласка, больш падрабязна пра яго.

В.К. Жаночы «спецлагер» быў раздзелены гаспадарчым дваром ад мужчынскага лягера з 12 тыс. вязьняў. Зразумела, кожны зь лягерных пунктаў меў сваю 3 метровай вышыні сьцяну з усіх бакоў, над якой яшчэ зьвітак калючага дроту. А ад лягернага боку сьцяны ў адным і другім лягеры былі яшчэ адгароджаныя калючкай «забароненай зоны».Уваход у «хоздвор» быў толькі звонку (але зь лягера).Дзеля функцыянаваньня такіх двух зборышчаў людзей, ды яшчэ жыхароў пасёлка Кінгір,у колькасьці 30тыс. душ, «хоз.двор» мусіў быць адпаведна забясьпечаны рознымі прадуктамі харчаваньня.

У траўні 1954 года ў мужчынскі лягер прывезьлі групу вязьняў зь іншых лягерных пунктаў. Вязьні тыя расказалі, што ў іншых лягерах пасьля сьмерці Сталіна ўмовы вязьняў паступова палепшыліся ў тым сэньсе,што сталі крыху плаціць за працу, за тыя грошы можна было купіць хлеб, папяросы і т.д. Змабілізаваная група адважнейшых хлопцаў паставіла перад лягернай адміністрацыяй патрабаваньні, галоўна:

—Скараціць дзень працы да 8 гадзін.

—Выдзеліць у месяцы чатыры вольных ад працы дня.

—Плата за працу.

—Неабмежаваная перапіска.

—Непрасьледаваньне сем'яў зьняволеных

—Незачыненьне на нач баракаў.

—Правядзеньне супольных культурных імпрэзаў з жанчынамі.

—Палепшаньне харчаваньня і г.д.

Адмоўная рэакцыя камендатуры выклікала актыўны супраціў і 16 травеня 1954 г.адбылася атака на камендатуру. Быў праведзены вылам у сьцяне гаспадарчага двара,

Заканчэньне. Пачатак у №9(29)-10(30)

апанаваньне вышкаў з вартаўнікамі і вылам у сьцяне жаночага лягеру. Мужчыны абʼявілі бунт, уварваліся ў жаночы лягер і прызвалі жанчын да абʼяднаньня сіл. Нагаварваць доўга не прыйшлося Рэакцыя на загад лягернай аховы разыйціся стала стварэньне жанчынамі жывой сьцяны—супраціву, што не прапусьціла ў лягер жаўнераў аховы. Не памаглі пагрозы, штурханьні ані вадзяныя гарматы. Жанчыны вытрымалі боль сякучай халоднай вады і паднялі страшэнны крык, што выклікаў жудаснае ўражаньне. Той крык тысяч жанчын разьнёсься па стэпе няведама як далёка, але прымусіў ваякаў да адвароту. Асаблівай адвагай і ініцыятывай выказаліся у гэтай акцыі жанчын мая сяброўка Надзя Дзімідовіч са Слоніма. У лягеры стварыўся хутка паўстанчы камітэт пад кіраўніцтвам зьняволенага былога палкоўніка Кузьняцова. Лягер сталі ахоўваць вязьні. Была загадана жорсткая дысьцыпліна. Камітэт дзейнічаў спраўна. Да супрацоўніцтва згуртаваў розных спэцыялістаў, вёў бязупынна, але без паспяховасьці перагаворы з прадстаўнікамі КДБ, пачаткова мясцовымі, а пасьля з Масквы. Тым часам вязьні ўладзілі хоць слабенькую, але ўсё-такі радыёстанцыю, сталі друкаваць лістоўкі, наладзілі балоны, што напоўнілі лістоўкамі і бутанам, пасьля выпускалі тыя балоны ў паветра. Канты, насычаныя нафтай, даводзілі агонь да балонаў, якія зрываліся, а вецер разносіў лістоўкі па стэпе.Цэлы полк жаўнераў меў заняцьце зьбіраць тыя паперкі, каб не дапусьціць да суседніх лягероў:Джэз-Гэз-Гану. Чэкісты нібыта цягнулі перагаворы, каб мець час на прыход канцэнтрацыйнага войска, якога сьцягнулі 2 палкі. 24 чэрвеня 1954 года, на досьвітку ў лягер уварваліся танкі Т-34, прабіваючы сьцены, нішчылі ўсё, што было перад імі, а уцякаючых зь перапугу людзей таптalі танкі, касіла пуляметамі й аўтаматычнай зброяй пяхота, што перлася за танкамі.

Пасьля таго агню, людзей, хто застаўся ў жывых, выганялі з баракаў вадою і газамі, гналі на чыгунку й адпраўлялі ў Сібір. Асаблівым садызмам адзначыўся апэратыўны лягерны афіцэр Беляеў, які уласнаручна расстрэльваў кожнага, хто зьявіўся ў полі яго бачаньня, хоць гэтага не вымагала сытуацыя.

Так кончылася барацьба людзей за мінімальныя чалавечыя правы.

Масавыя паховіны памардаваных адбыліся за лягернай зонай у невядомым месцы. Мне аднак неяк удалося перажыць і гэты кашмар. Суд над уцалеўшымі сябрамі арганізацыйнага камітэту адбыўся вясною наступнага 1955 году, зь якім вынікам —ня ведаю.

Я.Ж: Ці зьмяніліся пасьля паўстаньня ўмовы жыцьця ў лягеры?

В.К. Зьмяніліся, але ня больш чым у іншых лягерох. У радах КДБ таксама наступіла чыстка і некаторыя нашыя каты станавіліся ахвярамі. На месца памардаваных і вывезеных у Сібір ці ў турмы людзей прывезьлі новы кантынгент нявольнікаў.

Я.Ж. Як склаўся далей твой лёс?

В.К.: Мне стала лягчэй, бо аслабеўшая, страціўшы сілы ад цяжакй фізычнай працы, атрымала заняцьцё ў лягернай швальні. У 1956 годзе дачакалася звальненьня ў выніку перагляду справаў, палітычных вязьняў Вярхоўным Саветам СССР. Пачаткова паехала ў свой родны Буслаў, што ў Беларусі, там спаткалася з вольнай ужо сястрою Аняй і братам, што вярнуліся з Варкуты, а пасьля прыехала да мужа у Вроцлаў, дзе жыву і цяпер.

Я.Ж. Твая нястомная праца ў СБМ, на курсах для юначак у Драздах, дапамога

пасяленцам з усходняй часткі краіны былі добра ведамы беларускаму асяродзьдзю таго часу. Мне асабіста ведама твая апека ў працоўным лягеры ў Дэссаў, што ў Нямеччыне, над беларускімі дзеткамі, завезенымі туды на працу. Варожая расправа аказалася нечалавеча лютаю,ў адносінах да цябе. Я перакананы,што кожны з нас у той час лічыўся з магчымасьцю папасьці ў капцюры уладаў, варожых беларускаму адраджэнскаму руху.




Аднак ты змушаная была заплаціць найвышэйшую цану—жыцьцё дзіцяці, апрача асабістных мукаў зьняволеньня. Мінула аднак палова стагодзьдза ад часу паўстаньня СБМ.

Як ты цяпер ставішся да гэтай праблемы,гледзячы з пэрспэктывы часу,маючы на ўвазе бяспрыкладны ў гісторыі беларускага народу масавы інтузіязм маладога пакаленьня таго часу?

Незалежна ад панесеных ахвярах дзеячамі СБМ у тым ліку і ахвярах жыцьця, рух той заслужыў на ўвагу, аб'ектыўную ацэнку гісторыі. Шкада, што адыходзіў ён у забыцьцё, а дзенідзе абгаваранызы хлусьлівай варожай прапагандай лакалізаваўся ў скрыўленым люстры гісторыі.

В.К.Дзякую за зразуменьне майго асабістага болю, але ён аднак не памяншае сэнсу таго змаганьня, якое прыпала нам весьці ў маладосьці.

Абсалютна згаджаюся з тваім поглядам на гэтую тэму і веру аднак, што гісторыя яшчэ не сказала апошняга слова.

Я.Ж. Аптымістычным зьяўляецца факт, што сёньняшняя беларуская моладзь цікавіцца падзеямі мінулага, сама стала дабівацца той гістарычнай праўды. І трэба верыць, што моладзь знойдзе яе, данясе цэламу сьвету.

Дзякую за размову.

*На здымку: магіла Славіка Катковіча, Кінгір, 1951 г.*

# ЗГУКІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

## Змагар супроць Вандэі

Сьвятлана Менская



Алесь Адамівч нарадзіўся 3 верасьня 1927 г. у вёсцы Канюкі, Капыльскага р-на. Перад вайной скончыў 7 клясаў у п Глуша, Бабруйскага р-на. У 1950 г. ён закончыў БДУ і паступіў у аспірантуру. У 1953 г. абараніў дысертацыю з навуковай ступеню кандыдата філёлягічных навук ды пачаў сваю навуковую і літаратаруную кар'еру. У 1962 г.атрымаў тытул доктара, у 1971 г.— званьне прафэсара, у 1980 г. стаў членам-карэспандэтам Акадэміі Навук БССР.

У літаратурных колах быў вядомы як крытык і пісьменьнік з 1953 г. Ягоная першая кніга «Шлях да майстэрства» выйшла ў сьвет у 1958 г Творы А.Адамовіча выдаваліся ў Беларусі каля 30 разоў, многія зь іх перакладзены на замежныя мовы. Ягонае імя было вядомае за межамі былога СССР.

Алесь Адамовіч ня быў адмежаваны ад палітыкі. Калі пачаліся першыя зрухі перабудовы, ён стаў за яе. Ён ахрысьціў партыйнае кіраўніцтва ў Беларусі «Вандэяй», якая стаіць супраць перабудовы, супраць адраджэньня нацыянальнай самасьвядомасьці. Ён уключыўся ў палітычнае рэчышча—Беларускі Народны Фронт. У 1988 г. народ выбраў яго дэпутатам у Вярхоўны Савет СССР. Пераехаўшы на часовае жыхарства ў Маскву, ён навязаў блізкія кантакты з уплывовымі журналістамі і выдаўцамі. Ад беларускіх навукоўцаў ён атрымаў зьвесткі аб выніках Чарнобыльскай аварыі, якую урад БССР і СССР трымалі ў сакрэце. Выяўляць чарнобыльскую трагедыю было справай рызыкоўнай. Аднак Алесь Адамовіч прабіў глухую сьцяну маўчаньня. Ва ўсесаюзных выданьнях сталі зьяўляцца ягоныя артыкулы пра Чарнобыль. І дзякуючы гэтаму, хаця і спозьнена, адкрылася тайна Чарнобыльскай трагедыі.

Алесь Адамовіч памёр 26 студзеня ад інфаркту сэрца. Два дні ягонае цела знаходзлася ў Маскве ў Інстытуце кінематаграфіі. Тысячы людзей, пачынаючы ад Гарбачова і Ельцына, прыйшлі аддаць апошнюю пашану Алесю Адамовічу. 29 студзеня цела сьв. памяці А. Адамовіча прывезьлі ў Менск,у ягоную кватэру, пазьней перавезьлі у Дом літаратара. У кафэдральным саборы Сьвятога Духа Уладыка Філарет з шматлікім духавенствам адпявалі цела.30 студзеня спэцыяльны картэж машын адправіўся на могліцы ў пасёлак Глуша, дзе і пахавалі сьв. памяці Алеся Адамовіча.



# З ЖЫЦЬЦЯ ЭМІГРАЦЫІ

## Візыт архірэя

Васіль Шчэцька

Наш прыход сьв. Кірылы Тураўскага ў Рычмонд Гіл належыць да Канстантынопальскага патрыярхату. Ня мяючы свайго беларускага япіскапа, мы падпарадкаваныя экзарху Якаву. У суботу 11 сьнежня, у нашай царкве адбылася вялікая ўрачыстасьць, бо завітаў да нас Уладыка Мікалай Амісоскі ды прыехалі да нас архімандрыт Германос (кіраўнік канцэлярыі экзарха), протапрасьвіцеры Сьвятаслаў Коўш і Сьцяпан Шутак, ераманах Джэймс, айцы ярэі Лука Мігаль і Пётр Папроскі, ерадыякан Вільям Сміт, дыякан Міхал Казан ды іпадыяканы Пётр Беніс і Павал Стол.

Уладыку Мікалая сустракалі з крыжам, хлебам-сольлю настаяцель нашага прыходу айцец Грэгоры і старшыня царкоўнага камітэту Кастусь Мерляк. Мы ў гэты дзень ня толькі сьвяткавалі візытацыю Уладыкі Мікалая, але Уладыка Мікалай рукапалажыў Міхаіла Эгерта ў дыяканы, а Алег Амінаў атрымаў сьціхар. Абодва ня ёсьць беларускага паходжаньня. Дыякан Міхал радзіўся ў англа-саксонскай сям'і. Алег Амінаў прыехаў з Таджыкістану. Праваслаўныя багаслужэньні спадабаліся ім, і яны пасябравалі з нашым настаяцелем ігуменам Грэгоры. Вось чаму настрой прыхажанаў быў узьнёслы, малітоўны. Мы цешыліся з гэтых урачыстасьцяў, з надзеяй, што знойдзецца адпаведны кандыдат на япіскапа для нас.

Пасьля царкоўных урачыстасьцяў пачалася агульная трапеза ў царкоўнай залі, дзе было даволі гаманліва, бо шмат хто хацеў скласьці пажаданьні рукапаложанаму дыякану. Аднак паступова гамонка сьціхла, калі зьявіўся Уладыка Мікалай, а майстар цырымоніі а. Грэгоры папрасіў Уладыку благаславіць ежу. Усе змоўклі, толькі харысты на чале С. Жамойдам прасьпявалі «Ойча наш», «Іспола еті дэспота». Наш настаяцель Грэгоры прадставіў духавенства, пажадаў усім добрага здароўя, дзякаваў дыякану Міхаілу за здэцыдаванасьць прыняць духоўны сан і перадаў слова Кастусю Мерляку. К. Мерляк ня толькі дзякаваў духавенству і сьвецкім за прыбыцьцё, але коратка расказаў гісторыю нашага прыходу.

К. Мерляк прадставіў кіраўнікоў беларускіх арганізацыяў і установаў: старшыню Галоўнай управы БАЗА—Антона Шукелайца, старшыню БІНіМ Вітаўта Кіпеля, сакратара прыходу сьв. Еўфрасіньні Полацкае з Саўт Рывера—Міхася Сеньку, старшыню фундацыі імя П.Крэчэўскга—Франьцішка Бартуля.

Міхась Сенька зачытаў прывітаньне ад беларускага прыходу ў Саўт Рывeры, а Віталь Кіпель пасьля свайго зычэньня Уладыку Мікалаю ўручыў яму кнігі «Беларуская эміграцыя ў Амэрыцы» (аўтар Вітаўт Кіпель) і «Курапаты» (аўтар Зянон Пазьняк).

Калі афіцыйная частка трапезы закончылася, людзі не сьпяшылі дамоў. Рэдка такія ўрачыстасьці адбываюцца ў нашым эміграцыйным жыцьці, таму людзі хацелі спаўна выкарыстаць гэтую добрую мажлівасьць пабачыцца зь сябрамі, абмеркаваць падзеі ў Беларусі і на эміграцыі.

# Прамова Кастуся Мерляка на трапезе 11 сьнежня 1993 г.

Ваша Прэасьвяшчэнства Уладыка Мікалай.

Дастойныя айцы й дыяканы, пачэсны дыякан Міхаіл.

Царкоўная ўправа, вернікі прыходу Сьв. Кірылы Тураўскага ў Рычмонд Гіл, і я асабіста як старшыня царкоўнай управы, віншуем Вас, а. Міхаіл з пасьвячэньнем у дыяканы, каб служыць Богу і людзям, выканаць сваю місыю радасна, з задавальненьнем, каб стацца часткаю Сьвятое Праваслаўнае царквы ў Беларусі або ў Амэрыцы.

Мы маем гонар вітаць Яго Прэасьвяшчэнства япіскапа Мікалая Амісоскага, Першаярарха Амэрыканскай Карпато-Рускай Праваслаўнай грэка—каталіцкай япархіі ў Амэрыцы, які сёньня рэпрэзэнтуе Яго Эмінэнцыю архіяпіскапа Якава, экзарха Усяленскага Патрыярха на заходнюю частку сьвету.

Яго Эмінэнцыя архіяпіскап Якаў ёсьць таксама Першым ярархам Беларускае Праваслаўнае япархіі ў Паўночнай Амэрыцы.

Ня гледзечы на тое, што благаславенства Сьвяцейшага Усяленскага Патрыярха Атэнагораса ад 6 травеня 1971 г (Пратакол 42), было дана на прадастаўленьне кандыдата на япіскапа для Беларускае япархіі, нажаль сьвятарства й вернікі не змаглі пагадзіцца й прадставіць беларускага кандыдата па поваду палітычных першкодаў, якія вытвараліся сярод беларускае эміграцыі.

Беларусы апынуліся ў цяжкіх абставінах, але мелі шчасьце,каб духовая і юрысдыкцыйная апека была забясьпечаная Беларускай Праваслаўнай япархіі экзархам.

Ваша Прэасьвяшчэнства, Уладыка Мікалай, мы сёньня вельмі шчасьлівыя і нашы сэрцы напоўненыя радасьцю, што Вы ўшанавалі нас сваёю прысутнасьцю і благаславілі нас ужо трэці раз.

Першы раз Ваша Прэасьвяшчэнства выканалі чын высьвячэньня царквы Сьв.Кірылы Тураўскага 31кастрычніка 1983 году. Другі раз, 31 травеня 1987 г. адслужылі сьв. Літургію сьвяткаваньня 1000-годзьдзя хрысьціянства ў Беларусі. Ваша Прэасьвяшчэнства напоўнілі нашыя сэрцы бадзёрасьцю і вераю ў Бога, вераю ў саміх сябе. Вялікае Вам дзякуй, Уладыка.

Мы вітаем высокадастойнага Архімандрыта Гэрманоса, канцлера Грэцаке праваслаўнае архідыяцэзіі на Паўночную і Паўдзённую Амэрыку. Выкарыстоўваючы сёньняшнюю нагоду, я ветліва прашу ад імя прыходу Сьв.Кірылы Тураўскага й іншых нашых прыходаў, а ў асаблівасьці ад адміністратара Беларускай япархіі дастойнага айца Сьвятаслава Каўша, перадаць нашую шчырую падзяку Яго Эмінэнцыі архіяпіскапу Якаву й япіскапату за духовую апеку на працягу многіх гадоў.

Мы таксама вітаем дастойнага адміністратара Беларускай Епархіяльнай рады а. Сьвятаслава Каўша, які быў першым настаяцелем прыходу сьв.Кірылы Тураўскага ў Рычмонд Гіл. А. Сьвятаслаў першую Богаслубжу служыў 22 лютага 1969 г. ва Украінскай праваслаўнай царкве, таму што наш прыход свае царквы ня меў.

А.Сьятаслаў праслужыў настаяцелем больш за 8 гадоў, стаў настаяцелям прыходу Сьв. Еўфрасіньні Полацкай у Саўт Рывэры, а пасьля сьмерці протапросьвіцера Мікалая Лапіцкага, а. Сьвятаслаў быў выбраны на Епархіяльным саборы адміністратарам.

Айцец Сьвятаслаў і вечная ёй памяць

матушка Вера ніколі не прапусьцілі не аднае слубжы, не зважаючы на сьпякоты, дажджы, сьнежную завейку. Прыязджалі з Саўт Рывэру служыць Богу й людзям. Дзякуючы яго адданасьці і духоваму кіраўніцтву, царква наша была зь вялікім энтузіязмам пабудавана вернікамі з грашовай дапамогай беларусаў Амэрыкі. Першая Богаслужба ў царкве сьв.Кірылы Тураўскага ў Рычамонд Гіл, была адпраўленая з благаславенставам і прысутнасьцю Яго Эмінэнцыі Германоса, мітрапаліта Герапаліскага, 29 кастрычніка 1972 году.

Мы ўсе шчыра дзякуем а. Сьвятаславу за яго вялікі ўклад у наш прыход, за кіраўніцтва Беларускай эпархіяй і за прысутнасьць на нашай урачыстасьці.

Вітаем паважаных гасьцей і прысутных вернікаў. Дзякуем што прыбылі на урачыстасьць, каб падзяліцца з намі штодзённым кавалкам хлеба.



*На здымку: рукапалажэньне Міхаіла Эгерта ў дыяканы. Фота М.Шчэцькі*

# Як сустракалі Новы 1994 год

## ў Кліўлендзе

Па традыцыі кліўлендцы сустракалі Новы год ў новай залі грамадзкага цэнтру «Полацак». Аб тым, што папулярнасьць гэтага месца расьце, сьведчыць факт, што ўсе білеты былі распроданы за 2 тыдні да навагодняга вечара. А сёмай гадзіне 31 сьнежня ў залі «Полацка», ўпрыгожанай разнакаляровымі шарамі, сабралося каля 350 чалавек. Беларусы запрасілі сваіх сяброў амэрыканцаў, расейцаў, украінцаў з Кліўленда й ягоных ваколіцаў. Упершыню на гэтым вечары былі госьці з Чыкага: сп-ва Валянтына й Уладзімір Яканюкі.

Добра павячэраўшы, госьці пайшлі танцаваць пад гукі украінскай аркестры. Гучалі мэлёдыі розных гадоў і розных народаў. Беларускую песьню «Васілёчкі» прыгожа выканала Вольга Лукашэвіч.

Перад 12 гадзінай на сталах зьявілася шампанскае і госьці, пачалі ўпрыгожваць сябе бліскучымі каронамі, цыліндрамі, падобнымі на тыя, што носіць Дзядзька Сэм, капялюшамі. А роўна ў 12.00, усе паднялі кілішкі з шампанскім, і пачалі жадаць кожнаму шчасьця, радасьці, посьпехаў і новых сустрэчаў на «Полацку».

## У Саўт Рыверы

Надзвычай весела і прыемна было на сустрэчы Новага года ў залі грамадзкага цэнтру ў Саўт Рыверы. Прысутнічала болей як 120 гасьцей. Большасьць іх — парафіяне царквы Сьв. Еўфрасіньні Полацкай. Як і было і зазначана ў запрашэньні грала аркестра ... 2 музыкаў Пятра Скепкі і Зьмітрака Яўтуховіча. Недзе а 9 вечара, каля прыстойная публіка сабралася за сьвяточна прыбранымі сталамі, раздаліся гукі першага вальсу. На акардыёне зайграў Зьміцер, а на сінтэзатары Пятро. І як пачалося! Ажно да 4 гадзіны раніцы ў танцах амаль не было перапынку. Ледзь не забыліся ад захапленьня сустрэць Новы год.

Роўна ў 11.50 былі раздадзены прысутным капялюшы, цыліндры і дудкі і віншавальнае слова прамовіў Міхась Сенька. Пасьля ягонай прамовы і зычэньняў загрымела: «З новым годам!» Музыкі тым часам падрыхтавалі сюрпрызы. Зьмітрок, якому ўпершыню давялося сустракаць ў Амэрыцы Новы год, запрасіў да мікрафона Ірыну Мозылеву, кіраўніка хору ў царкве Сьв. Еўфрасіньні Полацкай. Яна адзіная зь беларускіх сьпявачак вучыцца па клясу вакала ў вядомай Джуліярд скул ў Нью Ёрку. І ня дзіва, што пасьля выкананых ею «Купалінкі» і некалькі песьняў Пёршвіна, доўга не змаўкалі воплескі. Пятро не застаўся ў даўгу і запрасіў на сцэну Алесю Кавалішыну з маці Любай ( г.Львоў). Госьці пачулі цудоўныя творы Шапэна і Бетховена, якія выканала юная Алеся. на піяніна. Наагул музычная частка навагодняй імпрэзы была даволі разнастайнай. Як паведаміў Зьміцер, давялося сыграць і ромбу па заказу, і аргентынскае танга, а Пятро прасьпяваў пару песьняў з рэпертуару «Чырвоных гітар». Аднак усе госьці вечарыны адзначылі, што ўпершыню аркестра здолела пратрымаць у найлепшым настроі ўсіх , цалкам абапіраючыся на беларускія мэлёдыі і песьні. Гучалі «Беларусачка» Сімянякі і «Васількі» Куліковіча, «Мой родны кут» Лучанка і «Даставай Язэп гармонік», «Беларускія дзяўчаты» Яўтуховіча, і з тузін беластоцкіх маладзёжных песьняў, прасьпяваных Пятром Скепкам. Хіба былі-

б у змозе музыкі зь якой-небудзь менскай ці беластоцкай рэстарацыі іграць на працягу 6 гадзін выключна розныя беларускія песьні і мэлёдыі? Ды і наогул, ці прыпынецца навала расейскай музыкі на беларускім радыё, асабліва пасьля адстаўкі С. Шушкевіча?

### У Чыкага

Прыхажане царквы сьв. Юрыя ў Чыкага традыцыйна сустракалі Новы год па старому стылю, 14 студзеня. У царкоўнай залі сабралося нямала беларусаў. Прыемным сюрпрызам для сабраўшыхся было пабачыць Валю Пархоменка, Алеся Казака й іх дачку Вольгу. Сьпевакі прыехалі з Кліўленду і зрабілі музычна-танцавальную праграму вечара вясёлай і разнастайнай. Гучалі прыгожыя беларускія песьні і мэлёдыі. Вялікай папулярнасьцю карысталіся палескія песьні. Таксама цікавую праграму сваіх, а таксама амэрыканскіх і іспанскіх песьняў выканала Вольга Казак. Сьпевы і танцы працягваліся да 3 гадзіны раніцы.

## Куцьця

*Куцьця, марозна, хмурнавата.*
*Сьняжок падкідвае заўзята:*
*Сьнег на Куцьцю—грыбы на лета,*
*Такая матчына прымета.*
*А сьцежкі чорны —ягад многа,*
*Ну й за гэта хваліць Бога.*

Ужо тры гады ў Кліўлендзе былі зялёныя Каляды, а ў гэтым годзе пашчасьціла... Нарэшце, выпаў белы пушысты сьнег і мароз узяўся.

На самую Куцьцю, 6 сьнежня сьнег сыпаў з ранку: лёгкі, негусты, к вечару сьнегапад крышку узмацьніўся. Ня гледзячы на тое, што складаліся цяжкасьці з транспартацыяй, царква Жыровіцкай Божай Маці ў Кліўленьдзе была поўная людзей. Пасьля вячэрні, якую адслужыў а.Міхась Страпко, усе спусьціліся ў падцаркоўную залю, каб сумесна зьесьці Куцьцю. А. Міхась Страпко павіншаваў усіх зь сьвятамі і благаславіў Куцьцю й ежу, якую падрыхтавалі Тацьцяна і Вольга Дубаневічы, Тацьцяна Кананчук, Андрэй Стрэчань, Марыя Шавэйка. Валянтына Ягоўдзік, Эва Яраховіч, Валянтына Яцэвіч. Як і належала па традыцыі, на стале стаяла 12 страваў: квас, галубцы посныя, селядцы з цыбулькай, бліны з макам, грыбкі марынаваныя, рыба смажаная, розныя гатункі печыва, кампот з сухіх фруктаў і Куцьця. Пасьля Куцьці прыхажане пасьпявалі беларускія і амэрыканскія калядкі і задаволеныя разыйшліся па хатах.

## Ялінка

Што не кажы, а Каляды ёсьць самае даўгачаканае сьвята ў дзяцей. Колькі падарункаў, колькі сюрпрызаў атрымовае дзетвара, што і падлічыць цяжка. Навагодняя ялінка ў гэтым годзе ў кліўлендцкай царкве Жыровіцкай Божай Маці адбылася 2 студзеня. Пад зялёную прыгажуню бацькі дзяцей, іх бабулі зь дзядулямі загадзя паклалі падарункі. Праўда, каб дастаць іх прыйшлося пачакаць Дзеда Мароза, ролю якога выканаў Язэп Радзюк. Аб тым, як спадабаліся дзецям падарункі лепш за ўсё адлюстроўваюць здымкі (Гл. 3 бачынку вокладкі).



*Занімай, Беларусь маладая мая,*
*Свой пачэсны пасад між народамі!..*